© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 4 (1967) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 23 СТУДЗЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Сянько вітае архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Саву. Побач іх — выкладчык Акадэміі хрысціянскай тэалогіі ў Варшаве Уладзімір Місіюк. На заднім плане стаяць (злева): Ігар Хадасевіч — віцэ-консул Генеральнага консульства РБ у Беластоку, Ежы Мушынскі — галоўны рэдактар Беластоцкага радыё і Уладзімір Каральчук — сакратар пасольства РБ у Варшаве.*

**Фота Ф. Б. Скока**

## НАВАГОДНІ ПРЫЁМ

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Сянько 9 студзеня 1994 г. наладзіў у рэстаране „Асторыя" ў Беластоку навагодні прыём. Сярод гасцей былі, між іншым, віцэ-прэм'ер Уладзімеж Цімашэвіч, архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава, прадстаўнік каталіцкай Архідыяцэзіі, беластоцкі ваявода Станіслаў Пруціс. У прыёме ўдзельнічалі таксама прадстаўнікі ўлад ваяводства і горада з прэзідэнтам Беластока Лехам Руткоўскім, дзеячы беларускіх арганізацый, дырэктары беларускіх ліцэяў і бельскай „тройкі", настаўнікі, арганізатары мастацкай самадзейнасці.

Звяртаючыся да гасцей пасол Уладзімір Сянько падкрэсліў, што нашы дзяржавы перажываюць цяпер працэс трансфармацыі. У сэнсе польска-беларускіх адносін мінулы год быў больш удалым, чым папярэднія. Доказ гэтаму — вельмі добры палітычны клімат узаемадзеяння паміж прадстаўнікамі польскай і беларускай дзяржаў, лепшае супрацоўніцтва паміж міністэрствамі і ведамствамі ў эканамічнай галіне. Галоўным пасол палічыў тое, што сёння палякі лепш разумеюць беларусаў, а беларусы — лепш разумеюць палякаў. „Хаця мы суіснуём паміж сабой на працягу многіх стагоддзяў, але толькі цяпер больш пашыраныя кантакты дазваляюць нам ведаць адзін аднаго яшчэ лепш", — сказаў пасол. Нагадаў ён яшчэ аб адкрыцці ў мінулым годзе двух гранічных пераходаў, у тым ліку перахода Палаўцы — Пяшчатка, які будзе служыць больш сяброўскаму абмену паміж людзьмі.

Пасол Уладзімір Сянько перадаў навагоднія пажаданні адміністрацыйным уладам Беласточчыны, усім шматлікім арганізацыям, а звяртаючыся да беларусаў, пажадаў ім паяднання, шчасця і дабрабыту.

З беларускага боку ў прыёме ўдзельнічалі супрацоўнікі Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы, у тым ліку і віцэ-консул Генеральнага консульства РБ у Беластоку Ігар Хадасевіч, а таксама старшыня Гродзенскага аблвыканкама Сямён Домаш. Гасцей забаўляў народны калектыў „Музыкі" з Гродна.

**(вл)**

## БЫВАЙ, IBM!

У Беларускім грамадска-культурным таварыстве ў Беластоку пры вуліцы Варшаўскай 11 мелі месца ў гэтым годзе ўжо два ўзломы. Першы з іх на праваслаўную Каляду, а другі — пакуль дакладна невядома каторага дня. Злачынцы, як здаецца, прабіліся ў будынак Таварыства адзаду, значыцца ад панадворка, дзе знаходзіцца ганак і гараж. Будучы ў будынку, узламаліся ў сакратарыят, а адтуль у пакойчык, у якім пераховўвалася камп'ютэрная апаратура — тая, якая калісьці служыла для набору нашага тыднёвіка. Дзверы тыя былі забяспечаны кратамі — пагнулі іх.

— Забралі ўсё, — сказала сакратарка Таварыства, — камп'ютэр IBM, тры маніторы, станцыю дыскаў, ксеракс. Узялі таксама тэлевізар. Уцалелі толькі музычныя інструменты, хаця з камплекта загінулі мікрафоны.

— Здавалася б, — дадала яшчэ, — што няма тут чаго забіраць, а ўсё да нас узломваюцца.

Справа выдавецкай дзейнасці беларусаў у Польшчы, здаецца, канчаткова ўжо сфіналізавалася. Хаця пра гэтыя камп'ютэры на нашых старонках пісалася шмат, прыгадайма тут коратка годную жалю гісторыю. Апаратура была закуплена на зломе 1990 і 1991 гадоў. Каштавала яна каля 600 мільёнаў злотых (долар у той час, гэта важна, каштаваў неяк 9 з паловай тысячы злотых) — значыць сёння, калі ўсё раскрадзена, апаратура тая каштавала б больш за мільярд злотых. Некаторы час выконвала яна сваю ролю, бо знаходзілася ў рэдакцыі „Нівы" ды карысталіся ёю таксама іншыя беларускія арганізацыі. На жаль, у хуткім часе Беларускае таварыства вырашыла, што менавіта яно мае выключнае права на тыя камп'ютэры — апаратура паехала на Варшаўскую, дзе не толькі, што нікому не служыла, але з не пазбаўленай некаторай рэгулярнасці частотнасцю паддавалася зладзейскім нашэсцям. Першая частка камплекта апаратуры была ўкрадзена ў чэрвені мінулага года. Рэшта — у студзені гэтага года. Былі камп'ютэры ў руках беларусаў, дзеля статыстычнай дакладнасці, тры гады. Паслужылі ім крышку менш.

**(ам)**

## МУШУ АДНОЛЬКАВА ТРАКТАВАЦЬ УСЕ ЧАСТКІ КРАІНЫ

### ІНТЭРВ'Ю З ВЛАДЗІМЕЖАМ ЦІМАШЭВІЧАМ

„Ніва" — *Намеснік прэм'ер-міністра, старшыня Грамадска-палітычнага камітэта Рады Міністраў, міністр юстыцыі і генеральны пракурор ды пасол. Ці гэта ўжо ўсе функцыі, якія Вы адначасова выпаўняеце?*

В. Ц. — Не, ёсць яшчэ некалькі драбнейшых, але аўтаматычна звязаных нейкім чынам з тымі, якія вы пералічылі. Як намеснік прэм'ер-міністра з'яўляюся, напрыклад, старшынёю Краёвай рады бяспекі дарожнага руху. Была створана такая Рада пад канец дзейнасці ўрада спадарыні Сухоцкай. Створана фармальна, бо практычна ніколі яна не ўзнікла. У найбліжэйшых днях адбудзецца яе першае пасяджэнне. Праўдападобна яшчэ некалькі такога роду функцый я мог бы назваць.

„Н." — *А кім адчуваеце сябе найбольш?*

В. Ц. — Найбольш часу займаюць мне абавязкі міністра юстыцыі. Кіраванне гэтым ведамствам вяжацца з непасрэднай асабістай адказнасцю. У сувязі з гэтым усё, што замінае задачам у гэтым ведамстве, мусіць адысці на задні план. У дадзены момант з гэтай прычыны менш увагі адводжу абавязкам намесніка прэм'ер-міністра. Можна гэта растлумачыць таксама тым, што першых некалькі тыдняў існавання цяперашняга ўрада з натуральных прычынаў мусілі быць прысвечаны перш за ўсё распрацоўцы праекта бюджэту. Кожны з нас, міністраў, мусіў такім чынам заняцца перш за ўсё справамі свайго ведамства. Усё-такі маю надзею, што ў найбліжэйшых тыднях стане магчымым крыху іншае расстаўленне акцэнтаў у маіх штодзённых абавязках. Як намеснік прэм'ер-міністра, адказны за грамадска-палітычныя справы, змагу заняцца важнымі праблемамі, за якія непасрэдна адказваюць такія мае калегі, як міністр працы, міністр здароўя, ці, нарэшце, міністр культуры.

„Н." — *Вядомая палітолаг, прафесар Станішкіс, бачыць Вас як аднаго з правадыроў ліберальна-кансерватарскага крыла ў Саюзе дэмакратычнай лявіцы (СДЛ). Быццам Вашае крыло не мае намеру падтрымаць абяцанні, складзеныя левым выбаршчыкам?*

В. Ц. — Не магу каментаваць выказванні спадарыні прафесар Станішкіс. Мае яна права на свае погляды, як кожны чалавек. Каб мерытарычна магчы з ёю палемізаваць, я мусіў бы з яе боку пачуць якія-небудзь аргументы, накшталт доказаў, якія спасылаліся б на выказванні, рашэнні або дзеянні. Узнікае вельмі многа спекуляцый наконт гэтага, хто ёсць хто ў Саюзе дэмакратычнай лявіцы; спекуляцый, якія датычаць таксама таго, на колькі Саюз, або паасобныя яго часткі гатовы падтрымаць перадвыбарчыя абяцанні. Перш за ўсё трэба заўважыць, што, калі нехта пільна чытаў афіцыйныя дакументы СДЛ, распрацаваныя і апублікаваныя перад выбарамі, дык сцвярджэнне аб вельмі многіх і шырокавяшчальных абяцаннях аказваецца беспадстаўным. Зрэшты, сцвярджэнне, быццам бы поспех СДЛ і ПСЛ у выбарах

☞ *Працяг на стар. 4*

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Przez wiele lat wydawało się, że faszyzm jest jedynie historycznym wspomnieniem, które ukształtowało postawy pokolenia wojennego, ale o którym młodsze roczniki czytać będą już tylko w coraz bardziej historycznych książkach. Tymczasem na zachodzie, jak i na wschodzie Europy, faszyzm jest dzisiaj zjawiskiem całkiem realnym, żywym, nie wstydzi się nie tylko swoich poglądów, ale nawet swoich atrybutów — od swastyki aż po emblematy Czarnej Sotni.*

*(Polityka, nr 1)*

* * *

*Tułów nagi, pozbawiony narządów płciowych, z nogami bez stóp. Ręce ze śladami wyrwania z tułowia, głowa w odległości 3 metrów od tułowia. Do czoła przybity gwoździem paszport ZSRR ze zdjęciem.*

*(Kurier Poranny, nr 251)*

**Амаль кожная беластоцкая газета магла б сёння называцца „Даведнікам маладога садыста”.**

* * *

*Były minister sprawiedliwości i poseł Jerzy Dyka bardzo starannie przygotowywał się do głosowania nad wotum zaufania dla rządu H. Suchockiej. Wyjechał z domu wcześniej, żeby się nie spóźnić, dotarł do Sejmu na czas, a kiedy ogłoszono początek głosowania dostał sraczki, która unieruchomiła go w toalecie. Rząd przepadł jednym głosem. Po czym prezydent Sejm rozwiązał.*

*(Gazeta Współczesna, nr 252)*

**Такія, вось, ёсць „кулісы” вялікай палітыкі.**

* * *

*Na uroczystościach zamkowych kustosz zamku witał tylko prezydenta z małżonką i p. Glempa. Za to prymas składał życzenia tylko prezydentowi i duchowieństwu. Liczy się tylko prezydent i kler, chociaż obecny był także premier i rząd oraz marszałkowie parlamentu.*

*(Polityka, nr 1)*

**У нармальнай феадальнай дзяржаве інакш і быць не павінна.**

* * *

*Zaczęliśmy przypominać normalne państwo afrykańskie o strukturze plemiennej, w którym przedstawiciele dwóch zwalczających się szczepów: Komuchów i Solidaruchów chcą stworzyć takie samo nowoczesne państwo, a różnią się tylko tym, że każdy dla swoich. Każdy szczep — nie do odróżnienia z zewnątrz — dysponuje pełnym wyposażeniem: ma swoich niezależnych ekspertów i sam starcza za całe społeczeństwo.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 305)*

**Нашыя сябры з „дэмакратычнай рэспублікі” Чад хваляць нас за рэформы і змены, якія праводзім паводле спрактыкаваных імі прынцыпаў.**

* * *

*Kancelaria Prezydenta oczekuje w 1994 r. 565 mld. złotych. Wynagrodzenie przeciętne pracownika kancelarii wyniesie 13,5 mln. zł miesięcznie. Utrzymanie Sejmu kosztować będzie rocznie 858 mld. zł, dziennie 2,4 mld. Jeden senator kosztuje rocznie 2,6 mld zł. Stowarzyszenie Wspólnota Polska otrzyma 69 mld. zł. 18 milionów wynosić będzie przeciętna płaca pracowników Najwyższej Izby Kontroli. Krajowa Rada Radiofonii i Telewizji planuje wydatki 90,6 mld zł, co oznacza wzrost o 105,7 procenta.*

*(Rzeczpospolita, nr 305)*

* * *

***Украінізацыя беларускай эканомікі працягваецца. Вярхоўны Савет прыняў чарговае рашэнне аб павелічэнні мінімальнага заробку. З такімі тэмпамі інфляцыі вельмі хутка ўсе мы, як раней палякі, а цяпер украінцы, станем „мільянерамі”.***

***(Літаратура і мастацтва, н-р 51)***

**У Польшчы „мільянерамі” сталі ўжо нават беспрацоўныя, а ў Югаславіі, каб купіць газету, трэба ўжо даўно быць „мільянерам”. Беларуская эканоміка апынулася на шляху, які гарантуе грамадзянам, што ў 1994 г. і яны будуць „мільянерамі”. Браво, господин Кебич!**

* * *

***На свете не было, нет и не будет никогда более великой и прекрасной для говорящих по-русски православных людей власти, чем власть Владимира Вольфовича Жириновского! И не вам, колхозно-навозное племя, рассуждать о ней!*** — піша афіцэр сённяшняй г. зв. беларускай арміі ў рэдакцыю штотыднёвіка.

***Літаратура і мастацтва (н-р 51).***

**Такія патрыёты маюць бараніць незалежнасць Беларусі!**

* * *

*Co się wydarzy w 1994 r.?*

*Przede wszystkim mistrzostwa świata w piłce nożnej. Bardzo bym chciał, aby wygrał Kamerun, byłoby sympatycznie,* — сказаў **Станіслаў Тым, сатырык.**

*Powstanie oś Berlin — Moskwa jako rodzaj paktu opiekuńczego nad Europą Środkowo-Wschodnią,* — **сказаў Ежы Урбан, журналіст.**

*W pierwszej dekadzie marca dojdzie do zaostrzenia sytuacji w Rosji,* — **сказаў Уладзіслаў Сэрчык, рэктар беластоцкай Філіі ВУ.**

*(Kurier Poranny, nr 251)*

**У Расіі ўсё можа здарыцца, але адкуль прафесар Сэрчык ведае, што нешта пачнецца там у першай палове сакавіка? Проста прароцтва!**

* * *

*Zarówno nasz prezydent, jak i nasz premier pochodzą ze wsi. Wprawdzie Lech Wałęsa zaczął przebąkiwać o francuskich przodkach, ale to chyba dlatego, że był u nas kiedyś francuski król Walezy i może stąd to skojarzenie.*

*(Polityka, nr 52)*

* * *

*To prawda, wielu cieszyło się, jak weszli w 39 roku Sowieci na ten teren, ale okazało się, że pomimo tańców, Białorusinom dano najbardziej w kość. Nie było ich w tym czasie na stanowiskach w gminie, nie było na innych eksponowanych miejscach, co najwyżej zamiatali ulice. Nie było w urzędach chyba żadnego Białorusina. I sekretarzem partii był Żyd Margolin, a naczelnikiem Rajispołkomu — Sinicki... Za czasów okupacji niemieckiej burmistrzem Zabłudowa był Kuczyński Franciszek, a wójtem Teofilewicz Franciszek. Amtskomisariat był obsadzony Polakami — stąd mieliśmy tam swoich ludzi, co więcej, w Bauerschafcie sekretarzem był członek Armii Krajowej.*

*(Z Zabłudowskiej Ziemi, nr 10/11)*

**У Заблудаўскай гміне палова жыхароў — гэта беларусы.**

## З мінулага тыдня

**Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан** правёў у Празе серыю сустрэч з галовамі дзяржаў Вышаградскай групы: Чэхіі, Венгрыі, Славакіі і Польшчы з мэтай перакanaць іх прыняць амерыканскую праграму „Партнёрства дзеля міру”, якая раней была адобрана Паўночнаатлантычным пактам НАТО. Прэзідэнт Б. Клінтан прадставіў кіраўнікам гэтых дзяржаў новыя ініцыятывы падтрымкі дэмакратыі і рыначнай гаспадаркі ў тых краінах. Кіраўнік амерыканскай адміністрацыі паабяцаў пабольшыць крэдытныя гарантыі для бізнесменаў, якія рашацца інвеставаць у Сярэдняй Еўропе. Будзе таксама праведзена рэарганізацыя існуючых фондаў дапамогі з мэтай стварыць фонд „Структуры дэмакратыі” дзеля развіцця супрацоўніцтва паміж грамадскімі арганізацыямі. ЗША падтрымаюць прапанову хуткага прыняцця дзяржаў Вышаградскай групы ў Арганізацыю гаспадарчага супрацоўніцтва і развіцця.

**Польшча не будзе блакіраваць** амерыканскую ініцыятыву „Партнёрства дзеля міру”, — сказаў прэзідэнт **Лех Валэнса**, падчас пражскай сустрэчы польскай і амерыканскай дэлегацый, пад кіраўніцтвам прэзідэнтаў абодвух дзяржаў. Прэзідэнт ЗША запэўніў, што партнёрства „не стварае бар’ераў, а толькі адкрывае дзверы”. Польскі прэзідэнт выказаў крытычныя заўвагі адносна гэтай ініцыятывы. Дадаў таксама, што імкненне Польшчы стаць членам НАТО не мае нічога супольнага з пагрозай для інтарэсаў Расеі. Біл Клінтан сказаў, што звернецца да кіраўнікоў еўрапейскіх дзяржаў з заклікам пабольшыць доступ польскіх тавараў да іх рынкаў. Падкрэсліў ён таксама, што бяспечнасць ЗША ёсць звязана з Польшчай.

Падчас сустрэчы ў Празе прэзідэнт **Лех Валэнса запрасіў Біла Клінтана** нанесці афіцыйны візіт у Польшчу. Візіт праўдападобна адбудзецца 12—13 ліпеня г. г., падчас чарговага еўрапейскага падарожжа прэзідэнта. Біл Клінтан будзе пятым прэзідэнтам ЗША, які наведае Польшчу.

**Праект бюджэту на 1994 год** прадугледжвае на культуру і мастацтва 4 509 629 млн. зл., што складае 0,65 працэнта ўсіх дзяржаўных выдаткаў. У 1993 годзе на культуру было прызначана 0,76 працэнта ўсяго бюджэту. **Казімеж Дэймэк**, міністр культуры і мастацтва, прадстаўляючы вышэйзгаданыя лічбы на пасяджэнні сеймавай Камісіі культуры і мастацтва, пракаментаваў іх, як вынік нестрымання кааліцыйнай дамовы, якая была заключана падчас фармавання ўрада ПСЛ і СДЛ.

**Па запрашэнню архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Савы** Беласток наведалі шэф Дэпартамента кадраў Міністэрства нацыянальнай абароны палкоўнік **Збігнеў Скочыляс** і, суправаджаючы яго, палкоўнік **Марэк Мальчэўскі**. Госці прысутнічалі ў багаслужбе ў Свята-Ільінскай царкве ў Дайлідах і пабывалі на канцэрце калядак у выкананні царкоўных хораў у філармоніі. Хаця быў гэта неафіцыйны візіт, можна меркаваць, што меў ён дачыненне да стварэння Вайсковага праваслаўнага ардынарыята, які ўзначаліць уладыка Сава.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч і прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын** падчас сустрэчы ў Маскве дайшлі да вываду, што трэба распрацаваць новы міждзяржаўны трактат аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Расеяй і Беларуссю.

**Падвіленскія палякі** арганізавалі пікет перад гмахам літоўскага парламента, патрабуючы вярнуць ім сваю зямлю і пратэстуючы супраць пашырэння межаў Вільні, што пазбавіць іх права на бацькоўскую зямлю (грунты ўключаны ў абшар вялікіх гарадоў не падлягаюць рэпрыватызацыі).

**Парламент Літвы** прыняў закон, які дазваляе грамадзянам мець агнястрэльную зброю. Цяпер можна будзе насіць з сабою дзеля самааховы пісталет асобам, якія закончылі 25 год жыцця, не хварэюць на псіхічныя хваробы, не падвяргаліся пакаранню, не з’яўляюцца алкаголікамі ні наркаманамі.

**Супрасль** праўдападобна яшчэ ў гэтым годзе атрымае статус курорта. Вырашаць аб гэтым асаблівыя кліматычныя ўласцівасці мястэчка, а перш за ўсё залежы лячэбнай гразі, якія былі выяўлены ў непадалёкай вёсцы Падсакалда.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- ➢ Расею "умом" не паняць.
- ➢ Інтэрв’ю з Наталляй Арсенневай.
- ➢ Весткі з гмінаў.
- ➢ Шпіёны, сенсацыі, кур’ёзы.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

**Прэзідэнт Шушкевіч у царкве**

На вячэрняй багаслужбе, якую ў Кафедральным саборы адправіў у першы дзень праваслаўных Каляд мітрапаліт Філарэт, прысутнічаў старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Евангелле і фрагменты літургіі чыталіся на беларускай мове. На гэтай мове звярталіся да мітрапаліта са святочнымі пажаданнямі святары менскіх прыходаў. Экзарх Беларусі карыстаўся расейскай мовай. „Вячэрня” транслявалася менскім тэлебачаннем.

**Беларусь чакае добры лёс**

Так сказаў прэм’ер-міністр Вячаслаў Кебіч падчас навагодняга візіту ў дзіцячым санаторыі „Пухавічы”. Надзея і ўпэўненасць прэм’ера былі звязаны з абяцаннямі шэфа расейскага ўрада Віктара Чарнамырдзіна, што ў 1994 г. Расея падпіша з Беларуссю палітычныя і гаспадарчыя пагадненні, ствараючы такім чынам дабрабыт беларускаму народу.

**Новыя сябры і пракуроры**

На апошнім у 1993 г. пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь былі прыняты пастановы аб устанаўленні дыпламатычных адносін Беларусі з Рэспублікай Грузія, Ісламскай Рэспублікай Пакістан, Дэмакратычнай Сацыялістычнай Рэспублікай Шры Ланка, Эфіопіяй. На гэтым самым пасяджэнні Прэзідыум павялічыў штатную колькасць пракурорскіх работнікаў рэспублікі.

**Статкевіча звольнілі незаконна**

Так вырашыў ваенны суд Менскага гарнізона. На пачатку м. г. Міністэрства абароны Беларусі звольніла палкоўніка Міколу Статкевіча з ваеннай службы і пазбавіла афіцэрскага звання за тое, што арганізацыя, якой кіраваў — Беларускае згуртаванне вайскоўцаў — запратэставала супраць ваеннага пагаднення з Расеяй. Суд Менскага гарнізона не дашукаўся ў выступленнях Міколы Статкевіча ніякай антыдзяржаўнай дзейнасці, а паводзіны Міністэрства абароны прызнаў незаконнымі.

**Імперыя не можа быць дэмакратычнай**

— заявіў старшыня Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк. — У Расеі адбылося тое, што павінна было адбыцца ў краіне, якая па сутнасці і псіхалогіі сваёй з’яўляецца імперыяй і да таго ж зведвае страшэнны сацыяльна-эканамічны крызіс. У такіх сітуацыях з’яўляюцца людзі, якія апелююць да люмпена, да простых сацыяльных інстынктаў, аснаваных на нянавісці, выкрыванні, абяцанках. Ні адна з партый, якія там сапернічалі, не мела антыімперскай платформы. Усе яны ў той ці іншай ступені стаялі на імперскіх пазіцыях; імперыя проста „па вызначэнню” не можа быць дэмакратычнай. Гэта аксіёма.

**Курс валюты**

У апошніх днях 1993 г. амерыканскі долар на беларускім рынку меў вартасць 5500 „зайчыкаў”. Нямецкая марка — 3700, расейскі рубель — 4. У прамежках апошніх 10 месяцаў інфляцыя ўзрасла на 700 працэнтаў. Дырэктар нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч выказаў гэтым часам меркаванне, што ўтварэнне адзінай рублёвай зоны не пагражае суверэнітэту краіны.

**„УЗІ” замест „Калашнікава”**

Адно з менскіх прадпрыемстваў пачало прадукцыю новага машыннага пісталета паводле ўзору ізраільскага „УЗІ”. Неўзабаве ў новыя пісталеты будзе перазброена беларуская армія.

## З ДРУКУ

Od wielu tygodni krążą pogłoski o wymianie na stanowisku wicewojewody białostockiego (...) Informacji o rozmowach koalicyjnych i wyjaśnień udzielił nam prezes białostockiego PSL **prof. Adam Dobroński.**

— Odbyliśmy rozmowy w tej sprawie z władzami SLD. (...) Ustaliliśmy również, że propozycję nowego kandydata na to stanowisko przedstawi SLD. Ze swojej strony przedstawiliśmy dwa warunki. Po pierwsze **wicewojewodą nie może zostać osoba reprezentująca wojującą „twardą” grupę którejś z mniejszości narodowych”.** Po drugie kandydat nie może być związany ze strukturami polityczno-administracyjnymi dawnej PZPR. Innych zastrzeżeń nie mamy.

***(Kurier Poranny, nr 6)***

**Мы перакананы, што пасол кіруючай цяпер партыі А. Даброньскі не меў на ўвазе беларусаў, гаворачы пра** *wojującą „twardą” grupę mniejszości narodowej.* **Праўдападобна думаў ён пра новую нацыю, якая стварылася паміж Кольнам і Мышынцам са сталіцай ў Ломжы — курпаў. Нацыю гэту складаюць тры плямёны — чорных, белых і зялёных. Найбольш шавіністычную і варожую групоўку курпаў — зялёных — узначальвае менавіта сам Даброньскі, які за курпізацыю ўсходняй Беласточчыны змагаўся раней у супольным фронце** *ze strukturami polityczno-administracyjnymi dawnej PZPR kierowanej w Białymstoku przez towarzysza Zdzicha Kurowskiego.*

**На партыю Даброньскага галасавала некалькі тысяч беларускіх мужыкоў, у надзеі, што будзе ён змагацца за танныя машыны да сельскагаспадарчай прадукцыі і высокія цэны на пшаніцу.**

**Спадары, у наступных выбарах праявіце большае пачуццё гумару!**

**Рэд.**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ХІЛЯЦЦА, КУДЫ ВЕЦЕР ПАВЕЕ

## Вёска Сідарка

што на Дубровушчыне — невялікая. Усяго тут 45 хат. Гаспадаркай займаюцца 32 сям'і. Маладых земляробаў мала. Большасць выехала ў навакольныя гарады — у Саколку і Беласток.

— Хаця ў нас добрая гаспадарка, усе дзеці павыязджалі. Цэнтральнае ацяпленне абагравае ўвесь дом, а тры пакоі стаяць пустыя. У горадзе я ўзяла б кватарантаў, — кажа адна бабуля.

Ёсць надзея, што вёска не памрэ. Усё часцей моладзь застаецца ў вёсцы. Цяжкая эканамічная сітуацыя ў гарадах адпіхвае ад іх вяскоўцаў.

## Гаспадаркі

тут традыцыйныя. Сяляне сеюць і гадуюць усяго патроху. Толькі адзін селянін спецыялізуецца ў вырошчванні расліннай прадукцыі. Трэба дадаць, што працуе ён кладаўшчыком на камбікармавым заводзе. У Сідарцы дзейнічае вадзяны млын. Калісьці быў ён уласнасцю Матушынскіх. У апошнім часе паявіўся даўні ўласнік і стаў цікавіцца млынам. Цяперашні гаспадар увесь час адчуваў сваю „тымчасовасць", бо не правёў ні рамонту, ні мадэрнізацыі. Дзейнасць млына сціплая. Можна ў ім змалоць толькі жыта на хлеб. Калі трэба змалоць пшаніцу ці ячмень, сяляне едуць у Ружаны Сток ці Сухаволю. Заробак сідарскага млынара прападае, бо людзі вязуць туды і жыта.

Перад вёскай відненюць каменныя будынкі. Гэта сямейны

## маёнтак Матушынскіх.

Старэйшыя жыхары памятаюць сваіх „паноў". Жылі яны тут аж да канца вайны. Перад вайной да дачкі Матушынскіх прыступіў немец Майзнер. Атрымаў ён палову маёнтка. Калі прыйшлі саветы, многае змянілася. Мужчын вывезлі ў ссылку, а жанчын перасялілі ў Гародню. Адна пані працавала там касіршай у тэатры. Як прыйшлі немцы, жанчыны вярнуліся ў Сідарку. Тут, у двары, немцы трымалі яўрэяў, якія працавалі на полі. Калі немцы ўцякалі, то і разам выехалі памешчыкі. Праўдападобна жывуць яны ў Варшаве. Нядаўна прыязджаў сюды сын Майзнера і дабіваўся кампенсацыі. За Народнай Польшчы тут была пачатковая школа. Цяпер у двары сяляне ладзяць вяселлі.

У Сідарцы знаходзіцца прыгожы

## каталіцкі касцёл.

Святыня ў Сідарцы пабудавана ва уніяцкі перыяд. У 1840 годзе яна стала праваслаўнай, а з 1918 г. — зноў каталіцкім касцёлам. Жывуць яшчэ людзі, якія памятаюць касцёл, які быў царквою.

— Было гэта так: усім жыхарам загадалі падацца ў бежанства. Не ўсе выехалі адначасова. Тыя, „якім Бог паспешлівасці не даў", скарысталі, бо іх назад вярнулі немцы. Загадалі яны сялянам вяртацца ў вёску, каб толькі не круціліся каля фронту. Праваслаўны святар паехаў раней. Ключы ад храма перадаў ён мясцоваму жыхару, Губарэвічу. Той жа Губарэвіч належаў да „спозненых шчасліўцаў". Цэлую акупацыю царква не дзейнічала. Не было святара. Калі наступіла адраджэнне Польскай Дзяржавы (11.XI.1918 г.), царква стала касцёлам (16.XI.1918 г.). Гэты дзень, 16 лістапада, каталікі ў Сідарцы святкуюць.

У вёсцы менш чым палова жыхароў — каталікі. Аднак у акрузе рымскія каталікі становяць большасць.

— Няма надзеі, што ў касцёле пачнуць гаварыць па-беларуску. Перад вайной у недалёкім Маеве быў ксёндз, які гаварыў казані па-беларуску. Знайшліся такія, якім гэта не падабалася, і паслалі ксяндза-наватара „рабіць Беларусь" у Кітай, — расказвае спадар Бялюк. — А так, наш ксёндз добры. Не дазваляе палітыкаваць у касцёле. Ксёндз мае магутны ўплыў на сваіх вернікаў. Людзі яго слухаюцца ўва ўсім.

Паміж суседзямі каталікамі і праваслаўнымі няма ў Сідарцы канфліктаў. Людзі тут згодныя. Католікі „беларусамі" лічаць толькі праваслаўных. Па-за рэлігіяй нічым яны не адрозніваюцца. Усе тут гавораць па-беларуску.

## Праваслаўная парафія

знаходзіцца ў Ячне. У Сідарцы свая каплічка. Раз у месяц прыязджае сюды святар. Святар, Уладзімір Масаўбас, чытае час ад часу Евангелле на беларускай мове. Гэта дзеля таго, „каб людзі больш разумелі". З прыхаджанамі бацюшка гаворыць выключна па-расейску. У прыходзе 160 сем'яў. Землякі, якія выехалі ў Амерыку прыслалі на рамонт сідарскай каплічкі 1000 долараў. 5 верасня 1993 г. было ўрачыстае высвячэнне адноўленай каплічкі. Прыехаў на гэтае свята архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава. Свядомы беларус, селянін

## Кастусь Бялюк,

думае, што ўсе беларусы тут хутка асімілююцца:

— Людзі тут вельмі мяккія, хіляцца туды, куды вецер павее. Дзяцей усе вучаць па-польску. Да чаго дайшлі!

Кастусь Бялюк расказваў мне, як паводзілі сябе сяляне ў час апошніх выбараў у Сейм і Сенат. Пераконваў ён аднавяскоўцаў, каб галасавалі на сваіх кандыдатаў. Прапанаваў завезці іх на ўласным транспарце. Аднак ніхто на выбары не паехаў. Усе гаварылі: „А што гэта паможа?", „Без нас абыдзецца", „Каго выберуць, то і добра".

Спадар Бялюк добра ведае беларускую праблематыку. Адзіны ў вёсцы чытае „Ніву" і „Czasopis". Слухае беларускія радыёперадачы. Канстанцін Бялюк самавук.

## Беларускай мовы

ў школах тут ніколі не было. У 1956 г., калі арганізавалася беларускае школьніцтва, аб мове гаварылася ў такім кантэксце: „To będzie zbytnie obciążenie dla waszych dzieci", „Po co ta niepraktyczna, wioskowa mowa?" Агітацыя зрабіла сваё. На Дубровушчыне і Сакольшчыне няма ніводнай школы, дзе навучаліся б беларускай мове! А мясцовая мова блізкая літаратурнай. Сялянам аднак лёгка было вытлумачыць, што гэта „jeden z polskich dialektów". Панацце беларускага інтэлігента тут не існуе. Калі я гаварыла з сялянамі па-беларуску, бачыла іх здзіўленне і недавер. Адна жанчына прэтэнцыёзна заявіла мне, што „ў нас усе маладыя гавораць па-польску!" Аб існаванні „Нівы" яна ніколі не чула.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**




**БОЛЬШ ПРА „КОСТРЫНО"!**

У 52 нумары „Нівы" за мінулы год мяне асабліва зацікавіў артыкул Ганны Кандрацюк „Добрыя людзі", а ў ім — звестка пра месца ў ваколіцах Катлоўкі, дзе — як аўтарка піша — „траціцца розум і лёгка загінуць". На жаль, аўтарка не падае яго каардынатаў.

Мне і Сяргею Тарасевічу хацелася б даведацца, дзе гэтае месца дакладна знаходзіцца? Ці ў лесе, які на карце званачаны „Ботвіноўшчына"? Сябра Сяргей аднойчы знайшоў у Белавежскай пушчы (побач Падалянаў) такі закавулак, дзе таксама лёгка страціць арыентацыю. Мы хацелі б праверыць, ці апісанае аўтаркай месца побач Катлоўкі адзначаецца такімі самімі прыкметамі.

Наогул просім Г. Кандрацюк напісаць асобны артыкул пра „кострыно". Гэтая тэма надта атракцыйная, так журналісту, як і чытачу. Думаем, што праблемаў з ёй сп. Кандрацюк ніякіх мець не будзе. Яна ж — як піша — выводзіцца з гэтых мясцін.

**ПЁТР БАЙКО**

**Ад аўтаркі:** Магнітныя анамаліі і „лясное кострыно", дзе канцэнтруецца згустак магнітных уплываў, знаходзяцца ў недалёкім лесе, што за Катлоўкай. Не давялося мне пабачыць, каб гэтыя месцы былі адзначаны на карце. Навуковае тлумачэнне гэтай з'явы паявілася тут вельмі позна, у 70-ыя гады, калі адкрылі радовішчы руды жалеза і іншых металаў. Затое ў Катлоўцы старыя і малыя ведаюць аб „згубных месцах" ад стагоддзяў. Гэты ўплыў давялося мне адчуць не раз на ўласным розуме. Абяцаю напісаць асобны артыкул пра гэтыя „чартоўскія сядлішчы" — як гавораць у нас у народзе.

З пашанай

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

# ЗАРАБІЦЬ!

— Скажыце, ну, як цяпер жыць? — запытала Кацярыну суседка. — Усё дарагое, а грошай у нікога няма.

— А цяпер можна знайсці „аказію", — усміхнулася тая. — Вось, яйкі падаражалі.

— А якая ад гэтага радасць? — пац餐снула плячыма Манька. — У нас іх няма, а купіць шмат іх не купіш, бо за пяцьдзесят тысяч лепш каўбасак-сасісак купіць. Каўбаса больш сыціць.

— Я не пра гэта. Можна яйкі купіць ад „рускіх" танней, а прадаваць іх па такой цане, якую прапануюць бабы з вёскі.

— Але ж у іх яйкі з пячаткай, а ў нас людзі ў ваколіцы ведаюць, што, хоць жывем у сваіх дамах, то нічога не гадуем. Хто ж у нас у Гайнаўцы такія яйкі купіць!

— Хто нас ведае, а хто не. Горад жа не такі і малы. Купяць, кажу вам.

Як пагаварылі, так і зрабілі. Раніцай купілі яйкі ў „рускіх" напалову танней. Пячаткі з яек Кацярына змыла ў прыбіральні сабе вядомым толькі сродкам. Сталі каля вясковых жанчын і запрапанавалі цану яек такую ж, як і яны. На пытанне пакупнікоў, ці яйкі свежыя, Кацярына і Манька адказвалі:

— У мяне трыццаць курак, а ўчора яек было дваццаць. А яйкі па васемнаццаць тысяч за кілаграм.

Тыдзень прайшоў добра. Ніхто не падазраваў, што прадаюць яны не зусім свежыя яйкі, да таго ж замежныя. Яйкі былі, відна, добрыя, бо ніхто не прыходзіў з прэтэнзіямі, але праз тры тыдні людзі заўважылі ману. Суседкі на рынку, што стаялі блізка, пачалі распавядаць. Хто ім верыць, хто не, але яйкі прадаюцца далей няздрэнна.

— Я ж табе казала, што дзякуючы „рускім" можна траха зарабіць, — паўтарае Кацярына.

**АЎРОРА**

# БЕЛЫЯ БУСЛЫ ЗАМЕСТ БЕЛЫХ МЫШАК

Журналісты надта часта наведваюць Белавежу, аб чым сведчыць даволі вялікая колькасць артыкулаў, якія паяўляюцца ў краёвай і замежнай прэсе. На жаль, не кожны з журналістаў дбае пра дакладнасць падаваных ім інфармацыяў. Толькі замежным здараецца, што, да апублікавання свайго артыкула, правяраюць яго карэктнасць, дасылаючы тэкст асобам, у якіх бралі інфармацыі.

Нічога тады дзіўнага, што чытачы час да часу маюць нагоду здорава пасмяяцца з некаторых артыкулаў. Нярэдка можна з іх даведацца проста аб „сенсацыйных", хаця і прыдуманых, справах. Вось, адзін прыклад з апошніх тыдняў.

Гражына Навіцкая ў „Gazecie Pomorskiej" н-р 289 ад 10-12 снежня 1993 г. (выдаванай у Быдгашчы), у артыкуле „Żubr i żubrówka", піша, што ў пушчы зараз паявіліся новыя від птушкі... bocian biały (!). Невядома — смяяцца, ці калыхаць ад здзіўлення галавой? Белы бусел жыве тутака з даўніх часоў. Магчыма, што ў апошнія гады яго лік паменшваецца, але ўсё ж ён тут надалей даволі прыкметны!

Магчыма, што журналістка замнога паспрабавала той, згаданай у загалоўку яе артыкула, зуброўкі. І, вось, што выйшла! Не белыя мышкі ёй уваччу паявіліся, а белыя буслы! Ці не сенсацыя гэта?

**ПЁТР БАЙКО**

# ХУДЫ БЕЛАВЕЖСКІ ТУРЫЗМ

Ужо неаднойчы мы пісалі, што ў апошніх гадах пастаянна паменшваецца лік турыстаў, наведваючых Белавежу. Гэтак было і ў мінулым, значыць — 1993 годзе. Славутую мясцовасць, а дакладней, акружаючую яе пушчу, зацікавіла пабачыць каля 76 тысяч чалавек, у тым ліку каля 6 тысяч з заграніцы (з 53 дзяржаў). У параўнанні з 1992 г. турыстаў паменшала на 3 тысячы, а калі гаварыць па самых замежных, то толькі на 300 чалавек. Нішто не паказвае, каб гэтая тэндэнцыя спынілася ці змянілася на карысць у бягучым годзе.

Калі не здзіўляе падзенне ліку краёвых турыстаў, то крыху загадкавай з'яўляецца нежаданне наведваць Белавежу ў замежных грамадзян. Праўда, тыя трыста чалавек — лік невялікі і, заўпарцюўшыся, можна было б падцягнуць яго пад статыстычную памылку; дык тыя ж сотні на працягу пяці апошніх гадоў складаюць ужо тысячы.

Але з другога боку: што ў Белавежы робіцца, каб прывабіць замежнага турыста? На жаль, амаль нічога! Несумненна, каму пад сілу, можа наняць сабе чужамоўнага (вядома — чужамоўнага нам, не замежніку!) экскурсавода — ёсць іх зараз удоваль. Дык ужо, калі чужаземец захоча купіць нейкую кніжку ці альбом аб Белавежы на сваёй мове, то дарма іх тут шукаць! Толькі што ў апошнім годзе паявіліся лістоўкі пра парк і паказны запаведнік на нямецкай і англійскай мовах. Але яны ні ў якім спосаб не запоўнілі выдавецкай прорвы. Зрэшты, не хапае даведнікаў пра Белавежу і пушчу на польскай мове! Добра, што хоць карта ёсць у пастаянным продажы.

Не надта захапляюць замежнікаў стандарт і ўмовы начлегаў. Распаўсюджаныя на Захадзе сямейныя „гасцініцы" (дакладней кажучы — прыватныя кватэры), у нас апошнім часам практычна не існуюць. А калі ўжо і нехта прыме гасцей, то не вельмі дбае пра камфартабельнасць памяшканняў.

І яшчэ адна, на маю думку, важная справа. У Белавежы, апрача наведвання пушчы і зуброў, няма ніякіх атракцыйнаў! Гэта таксама не прыцягвае замежнікаў.

Дык хто, усё-такі, захацеў заглянуць у пушчанскія нетры ў 1993 годзе? Ужо традыцыйна найбольш бачылася немцаў — на гэты раз каля 1,5 тыс. чалавек. За імі, у статыстычным пераліку, апынуліся галандцы (700), французы і англічане (па 600 асоб). Далей: датчане, амерыканцы, бельгійцы, швейцарцы, беларусы (пераважна ўдзельнікі дзіцячых экскурсій з г. зв. „чарнобыльскай зоны") і італьянцы.

Чаго могуць спадзявацца краёвыя і замежныя турысты ў бягучым годзе? Напэўна — павышэння коштаў турысцкіх паслуг. Першымі падаражэлі, ад 15 студзеня г.г., уваходныя білеты ў паасобныя турысцкія аб'екты (запаведнік зуброў, музей, нацыянальны парк). Зараз звычайны білет каштуе 10 тыс. злотых, ільготны — 5 тыс. зл. Праўдападобна ўлетку будзе адкрыты дыдактычны асяродак працы з настаўнікамі і школьнікамі. Маюць таксама выйсці друкам нямецка- і англамоўная версіі даведніка пра зуброў аўтарства Зб. Красінскага. З'явяцца ў продажы новыя паштоўкі.

Зрэшты, пра важнейшыя турысцка-белавежскія навінкі буду інфармаваць нашых чытачоў.

**ПЁТР БАЙКО**



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# МУШУ АДНОЛЬКАВА ТРАКТАВАЦЬ УСЕ ЧАСТКІ КРАІНЫ

## ІНТЭРВ'Ю З ВЛАДЗІМЕЖАМ ЦІМАШЭВІЧАМ



Працяг са стар. 1

быў звязаны з вялікімі грамадскімі чаканнямі, выклікаными тымі арганізацыямі, з'яўляецца таксама беспадстаўным. Усялякія даследаванні грамадскай думкі даказваюць аграмадны рэалізм вялікай часткі або і большасці нашага грамадства. Гэты рэалізм праяўляецца, між іншым, у тым, што няма спадзяванняў на вялікія змены ў кароткім часе ў матэрыяльным становішчы ўсяго грамадства або паасобных людзей. Так, на цяперашні ўрад ускладаюцца надзеі, але ў перспектыве некалькіх гадоў; і так менавіта хочам сябе паводзіць.

Немагчыма, з відавочных прычын, правесці гвалтоўную рэарыентацыю гаспадарчай, сацыяльнай, прыватызацыйнай ды іншай палітыкі без узнікнення непатрэбнай рызыкі падзення некаторых працэсаў ці функцыянавання некаторых механізмаў. Такім чынам стараемся карэкціраваць палітыку, але таксама вядома, што ўводжанне намі карэктуры вяжацца з працягваннем многіх дзеянняў папярэдніх урадаў. У адным з інтэрв'ю я падкрэсліваў спробу змены стылю, у якім праводзіць палітыку цяперашні кааліцыйны ўрад. Мусім жа ўсведамляць сабе, што прынцыповая змена зместу гэтай палітыкі ў кароткім часе немагчымая.

**„Н."** — *Жыхары Беласточчыны з непакоем наглядаюць павароты ў міжнароднай палітыцы. Тутэйшых беларусаў перш за ўсё непакоіць тое, што Польшча і Беларусь могуць апынуцца ў варожых сабе палітычна-мілітарных блоках. Якой усходняй палітыкі можам чакаць ад цяперашняга ўрада?*

**В. Ц.** — Я асабіста не сумняваюся ў тым, што адна з самых вялікіх памылак, якая была зроблена на працягу апошніх гадоў, датычыла ўсходняй палітыкі. Палітыкі, якая характарызавалася поўнасцю свядомым ахалоджаннем узаемадачыненняў, падняццем, на жаль, споўненай пазней, рызыкі паслаблення кантактаў і гаспадарчага супрацоўніцтва. Было ў гэтай палітыцы многа прапагандысцкіх дэманстрацый, якія не маглі, вядома, не сустрэцца з рэакцыяй. Дайшло цяпер да такой сітуацыі, калі нашыя суседзі з усходу, перш за ўсё Расія, не маюць вялікіх інтарэсаў, якія маглі б зрабіць з Польшчай. Свае асноўныя праблемы рашаюць яны ў кантактах з Заходняй Еўропай і Амерыкай. Застаецца яшчэ шанц на гэта, каб знайсці супольныя гаспадарчыя інтарэсы. Польшча ўсё яшчэ гэты шанц мае. Мне здаецца, што будзем прабаваць гэты шанц скарыстаць. Сцвярджаю гэта, між іншым, на аснове выказвання міністра замежных спраў Анджэя Аляхоўскага, які нядаўна гаварыў аб гэтым на прэс-канферэнцыі, а таксама абапіраючыся на выказванні іншых палітыкаў, якія адыгрываюць сёння важную ролю ў краіне. Маю тут, між іншым, на думцы пазіцыю маршалка Сейма Юзафа Алексага ў гэтым пытанні, таксама прадстаўленую нядаўна на прэс-канферэнцыі.

Ці апынёмся ў супрацьстаўных палітычных або мілітарных лагерах? Маю надзею, што не. У маім перакананні, гарантыю бяспекі Польшчы, таксама як і бяспекі Еўропы, трэба шукаць у агульнаеўрапейскіх механізмах і сістэмах, якія пасадзейнічаюць разгрузцы напружанняў і прадухіленню канфліктаў. Шляхам да агульнаеўрапейскай сістэмы можа стаць рэарганізацыя НАТО і скарыстанне яго як асновы для гэтых агульнаеўрапейскіх рашэнняў. Усё-такі, шлях да гэтай задумы вельмі далёкі. Дзяржавы НАТО выразна не з'яўляюцца ні ў якім сэнсе, у тым таксама і псіхалагічным, падрыхтаванымі да такой рэарыентацыі ваеннага дагавора, які яны ствараюць.

Узнікаюць новыя праблемы, між іншым звязаныя са здарэннямі ў Расіі ў апошніх месяцах і апошніх тыднях. Цяжка ў гэты момант адназначна пракаментаваць, якія яны прынясуць вынікі. Магу толькі сцвердзіць, што існуе рызыка нейкіх цяжкасцяў, якія могуць выступаць між Захадам і Усходам. З гэтага пункту гледжання Польшча і нашыя самыя блізкія суседзі, такія як Беларусь і Украіна, не знаходзяцца ў самым шчаслівым становішчы, але гэта ўжо ад нас з гістарычнага пункту гледжання незалежнае.

**„Н.** — *Беларусь у польскай палітыцы быццам недацэньваецца. Мне здаецца, што ў зацікаўленнях гэтай палітыкі яна знаходзіцца на апошнім месцы сярод усходніх суседзяў.*

**В. Ц.** — Я б хутчэй за ўсё гэтага меркавання не пацвердзіў. Здаецца мне, што палітычныя ўзаемадачыненні сама найменш карэктныя, пасля, было ні было, даволі частых кантактаў за апошнія месяцы і гады. Гаспадарчыя дачыненні добрыя. Гаспадарчыя кантакты Польшчы з Беларуссю ў найменшай ступені паказалі гэтае характэрнае глыбокае падзенне, якое выступіла, напрыклад, у дачыненнях з Расіяй. Адкрываюцца гранічныя пераходы. Гэта служыць гаспадарчаму набліжэнню, але таксама і палягчэнню міжлюдскіх кантактаў.

З'яўляюцца нейкія аб'ектыўныя праблемы, хаця б усё, што перашкаджае ў нармальным наладжанні гандлю і гаспадарчага супрацоўніцтва па прычыне плацежных і разліковых цяжкасцей. Я гаварыў нядаўна з паслом Рэспублікі Беларусь, спадаром Сянько. Сапраўды, бачым гэтыя праблемы, і робяцца спробы іх вырашэння. Маю тут на ўвазе ўзаемнае перакананне аб патрэбе стварэння супольнага банка, які б абслугоўваў гандаль між абедзвюма дзяржавамі, што выдатна дапамагло б узмацненню супрацоўніцтва.

**„Н."** — *4/5 беларускіх выбаршчыкаў галасавала ў апошніх выбарах за Вамі, зрэшты, не першы раз. Ведаеце беларускія патрабаванні, а Вашыя палітычныя магчымасці цяпер вялікія, як ніколі дагэтуль. У якой ступені маеце намер іх скарыстаць на справы тутэйшых беларусаў?*

**В. Ц.** — Як намеснік прэм'ер-міністра, як міністр, мушу аднолькава трактаваць усе часткі краіны, усе рэгіёны, усе грамадскія групы. Было б нечым цяжкім да ўспрыняцця, калі б які-небудзь палітык, які выпаўняе дзяржаўныя функцыі, падтрымліваў або дыскрымінаваў якія-небудзь часткі дзяржавы або грамадства.

Як пасол з гэтага рэгіёна, я дасканала ведаю, хто даверыў мне пасольскі мандат і якія ў мяне абавязкі перад гэтым ваяводствам і яго жыхарамі, усімі, зрэшты. Здаўна, з самога пачатку маёй дзейнасці ў парламенце я цікавіўся праблемамі нацыянальных і рэлігійных меншасцяў. Гэтае зацікаўленне падтрымоўваю і стараюся рэагаваць на штодзень на розныя праблемы, якія тычацца таксама беларускага асяроддзя. Вось, напрыклад, я выступаў у апошніх тыднях да ўладаў Варшавы, Беластока, Бельска-Падляшскага з прапановамі забяспечыць памяшканні для дзейнасці беларускай меншасці. Я загадаў зрабіць перагляд справы спынення судовага працэсу, які тычыцца факту высялення і пабояў дзеячоў БГКТ у Варшаве. Я звяртаўся да міністра культуры з просьбай разгледзець магчымасць хаця б абмежаванага прадметнага субсідыявання арганізацый нацыянальных меншасцей з мэтай палегчыць ім існаванне. Нарэшце, прабую, так хутка, як гэта магчыма, рэагаваць на ініцыятывы ўлад нашага ваяводства. Некалькі тыдняў таму я сустрэўся з прадстаўнікамі ўладаў Гайнаўкі і маю надзею, што ў выніку гэтай сустрэчы некалькі важных праблем гэтага горада і яго жыхароў будзе хутчэй вырашаных, чымсьці здавалася. Маю тут на ўвазе хуткае заканчэнне пабудовы шпіталя ў Гайнаўцы і здабыццё сродкаў на хуткае аснашчэнне бальніцы неабходнай апаратурай. Думаю таксама пра жаданне дапамагчы ажыццявіць прапанову стварыць скарбовую (казначэйскую) управу ў Гайнаўцы і яшчэ некалькі іншых спраў.

**„Н."** — *А чаго Вы жадалі б чытачам „Нівы" ў новым годзе?*

**В. Ц.** — Апрача найлепшых пажаданняў усялякай памыснасці я б жадаў як чытачам „Нівы", так і астатнім жыхарам нашага ваяводства, каб гэтае багацце ды нацыянальная, культурная і рэлігійная разнастайнасць нашага рэгіёна добра нам служылі. Такім чынам, адначасова, каб ніколі яны не сталі прычынаю якіх-небудзь канфліктаў, або якіх-небудзь сур'ёзных хваляванняў. Здараліся ў мінулым выпадковыя канфлікты, часам большага можа значэння, як хаця б пытанне Супраслі, але, шчасліва, ніколі да гэтай пары, прынамсі за маёй памяці, не набралі яны нейкага грознага маштабу. Зычу, каб мы, узаемна ўсведамляючы, да чаго даводзяць рэлігійныя і нацыянальныя нелады, умелі прадухіляць такія небяспекі ў нашым рэгіёне, бо на гэта менавіта, маем непасрэдны ўплыў.

**„Н."** — *Вельмі дзякую за размову і пажаданні.*

Гутарыў
**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

**Фота Збігнева Кшывіцкага**

# СЯРЭДНЯЯ ЛІТВА

9 снежня 1993 г. па радыё „Свабода" Мікола Іваноў гаварыў аб захопе ў 1920 годзе Вільні Лук'янам Жалігоўскім. Заўважыў ён, што польскія ўлады за гэты крок генерала асабліва не папракалі, хаця ён парушыў пастанову міжнароднага дагавору. Думаю, што пры нагодзе варта прыгадаць хаця б і кароткія вытрымкі з успамінаў самога Жалігоўскага, якія змясціў ён у невялічкай кніжцы, выдадзенай у 1943 г. у Лондане. Кніжка называецца: „Zapomniane prawdy". Адзін раздзел у ёй так і названы: „Zajęcie Wilna w roku 1920". Наколькі словы аўтара згодныя з фактамі, можна праверыць у дакументах. Галоўнае аднак, як генерал апраўдвае „неабходнасць" заваявання сталіцы былога Вялікага княства Літоўскага.

„Вільню я заняў не як польскі генерал, але як грамадзянін Літвы, дзе пражывае мой род ад шматлікіх пакаленняў, і ўзначаліў дывізію, якая складалася з грамадзян гэтай зямлі, — пісаў Жалігоўскі. — Пасля перамогі пад Радзымінам і Замосцем, савецкія арміі адступілі на ўсіх франтах. Вайна была выйграна. Толькі мы, грамадзяне нашай Бацькаўшчыны — Літвы — не маглі вярнуцца ў свой дом... Тады мяне паведамілі, што мне трэба явіцца ў Маршала ў Беластоку.

Сустрэча адбылася ў вагоне, дзе Маршал кватараваў. Лёгка мне з ім было гаварыць — мы разважалі віленскімі катэгорыямі. Маршал меў вялікія планы адбудовы гістарычнай Літвы, хаця ведаў, што ані дзяржавы кааліцыі, ані Ліга Нацый, ані ўрад і польскае грамадства не разумеюць справы Літвы. Усе хочуць міру і справа так Літвы, як і Вільні, нікога не хвалюе. Прэм'ер Польшчы ўжо раней амаль не аддаў Вільні Вольдэмарусу. І калі цяпер мы не выратуем Вільню, гісторыя нам гэтага не даруе. Зрабіць гэта можа само насельніцтва пры дапамозе Літоўска-Беларускай дывізіі. Толькі нехта павінен узяць гэту справу ў свае рукі. Маршал лічыў, што гэта зрабіць магу толькі я. Аднак трэба памятаць, што ўсіх маем супроць сябе.

— Можа прыйсці такі момант, — гаварыў Маршал, — што супроць вас будзе не толькі грамадская думка ўсяго свету, але таксама і Польшчы. Можа здарыцца, што нават я буду вымушаны пайсці супроць вас. Трэба будзе ўзяць усё на сябе. Гэтага я не магу вам загадаць.

Я, не доўга думаючы, адказаў, што ўсю справу бяру на сябе".

Ці сапраўды генерал Жалігоўскі на ўсё згадзіўся не задумваючыся? З кнігі прафесара Пятра Ласоўскага „Po tej i po tamtej stronie Niemna" даведваемся, што на прапанову Пілсудскага Жалігоўскаму згадзіцца было нялёгка. А і размовы на тэму падрыхтоўкі да акцыі „цягнуліся без канца". Аднак наступленне на Вільню было здзейснена і завяршылася яно ўтварэннем міні-дзяржавы — Сярэдняй Літвы. Генерал жа з гэтага часу стаў верным хаўруснікам „каменданта" Пілсудскага.

„Былі намаганні, каб дамовіцца з Коўнам і Менскам, адбудаваць Літву. На жаль, нідзе водгуку не было. Менск загледзеўся на Маскву, Коўна — на Берлін. Да вялікай думкі Маршала не быў падрыхтаваны і польскі народ. Польскае грамадства марыла аб „суцэльнай" дзяржаве...

Аказалася, што і Коўна не было зацікаўленае Літвой, ні яе традыцыямі, ні будучыняй краіны. Яно смела выконвала волю Берліна... І тады ў 1921 годзе быў падпісаны пакт у Рызе...

Не цяжка зразумець, у якой сітуацыі быў Маршал, калі ад яго патрабавалі асудзіць тое, што сталася ў Вільні. Атакі спыніліся, калі Маршал сказаў: — *З прычыны незразумення і непрыемнасцей, якія на кожным кроку сустракаю, я гатоў пакінуць пасаду кіраўніка Дзяржавы і тады далучуся да Жалігоўскага.*

Тады склікалі ў Вільні Сейм і Віленшчына была ўключана ў польскую дзяржаву. Федэрацыйныя планы Маршала праваліліся".

Жалігоўскі, гаворачы пра мары і планы Пілсудскага, не скрывае і свайго адабрэння ягонага намеру адбудаваць Вялікае княства Літоўскае. Аб тых, хто быў абыякавы да гэтай задумы ён паставіўся амаль што варожа. З горыччу падкрэслівае, што магнаты і арыстакраты Літвы марылі толькі аб урадавых пасадах у Варшаве або аб правядзенні часу ў Манака, не турбуючыся пра дабрабыт сваёй „айчыны" і яе насельніцтва.

Калі задумацца, міжвольна насоўваюцца пытанні. Напрыклад, што было б, калі б мары Пілсудскага здзейсніліся і „Літва" адрадзілася б? Што дало б гэта беларусам? Ці спаланізаваныя элітарныя колы грамадства Віленшчыны не асталіся б у гэтай дзяржаве толькі прадстаўнікамі чужых спраў і ўплываў?

Зрэшты, прамежак між двумя сусветнымі войнамі быў такі кароткі і наўрад ці змагло б паспець усталявацца нешта трывалае.

А вось, які ўплыў на беларускія справы мела спрэчка між Варшавай і Коўнам за Вільню, добра ведаем. Як адна, так і другая дзяржавы намагаліся здабыць прыхільнасць беларускага насельніцтва, ідучы на шматлікія ўступкі. Пачалі тады адчыняцца беларускія школы, ствараліся нават беларускія вайсковыя падраздзяленні... Праўда, коратка гэта трывала. А ўсё ж у гісторыі нейкі след ад таго астаўся.

**АНАТОЛЬ МАЎЧУН**



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ЮБІЛЕЙ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

14 лістапада ў Нью-Брансвіку (штат Нью-Джэрзі) беларусы Злучаных Штатаў Амерыкі ўрачыста адзначылі — у прысутнасці дастойнай Юбілляркі — 90 гадавіну з дня нараджэння вялікай паэтэсы Наталлі Арсенневай. Сустрэчу ў тамтэйшым гатэлі Гаят арганізавалі: Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Беларуска-амерыканскае задзіночанне ў Амерыцы і Арганізацыя беларуска-амерыканскае моладзі.

Урачыстасць пачаў настаяцель парафіі Жыровіцкай Божай Маці Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Гайленд Парку а. протаіерэй Васіль Андраюк малітвай „Ойча наш". Затым усе прысутныя праспявалі рэлігійны гімн на словы Юбілляркі „Магутны Божа", якім канчаюцца багаслужбы ва ўсіх беларускіх цэрквах на эміграцыі.

З прывітальнымі словамі выступілі старшыні: БАЗА — Антон Шукелайць, БІНіМ — д-р Вітаўт Кіпель, АБАМ — Вера Запруднік. Віншаваў Наталлю Арсенневу — ад свайго імя ды ад імя міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі — пасол Беларусі ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый Генадзь Бураўкін.

Падчас урачыстасці, якая — як зазначыў вядучы д-р Янка Запруднік — не мела характару афіцыйнае акадэміі, а хутчэй сямейнай сустрэчы, чыталіся творы Н. Арсенневай, віншавалі паэтку былыя вучні, знаёмыя, сябры. Не забыліся пра гэты юбілей беларусы з іншых краін. Зачытаны былі лісты, тэлеграмы ад суродзічаў з Канады, Бельгіі, Вялікабрытаніі, ад арганізацый і прыватных асоб. З Менска віншаванне даслаў Беларускі народны фронт.

Сустрэча закончылася супольным праспяваннем песні „Беларусь наша маці краіна".

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота аўтара**

Ад рэдакцыі: Інтэрв'ю, якое ўзяў у паэткі наш карэспандэнт у Амерыцы Мікалай Ваўранюк, надрукуем у наступным нумары.



*Наталля Арсеннева з паслом РБ у ААН Генадзем Бураўкіным і ягонай жонкай Юляй.*

# МЕЦЬ І БЫЦЬ

Лёнік, каб зарадзіць свой акумулятар новымі думкамі, едзе ў Варшаву. Наватарскі сок у яго мастацтве, бо жыватворны, цягне ён з беларушчыны, якая акружае ягоную „Высранку". Творчы працэс не паўстае сам па сабе. Запальвае яго божая іскра, якая можа запаліць толькі добрае паліва. Смецце наогул не гарыць ясным, вясёлым агнём, дыміць ды смуродзіць наваколле. Лёнік сам з'яўляецца тым творчым палівам, толькі шкада, што разменьвае яго на дробязі грамадскай дзейнасцю. Беларуская (сусветная?) культура збяднеецца з прычыны яго штодзённай творчай бясчыннасці. Лёніка проста трэба берагчы ад грамадскай дзейнасці. Пэўна, што грамадская дзейнасць стварае сякі-такі цывілізацыйны ўзровень паўночна-ўсходняй часткі Беласточчыны, патрэбны сучасным і іх нашчадкам. Але гісторыя змяце яго ў сваім ходзе, пакідаючы амаль пустэчу, а мастацтва Лёніка застанецца існаваць вечна, так доўга, як доўга будзе жыць цывілізацыя і пакуль не знішчожыць яе нейкі варвар або шаленец.

Таленавітыя людзі нараджаюцца вельмі рэдка, так як рэдкімі з'яўляюцца дыяменты. Мы ў штодзённым кругавароце забываем, што лепшае, лягчэйшае, весялейшае жыццё ствараюць таленавітыя людзі. Гэта яны стварылі ўсё, што нас акружае на панадворку і ў хаце: ад трактара па каляровы тэлевізар, ад камп'ютэра па касмічную ракету. Нам здаецца, што гэтыя ўсе прылады як бы існуюць само сабою, от, проста ідзем у магазін, і, калі маем грошы, іх купляем.

Не кажу, што ўсе матэрыяльныя рэчы вырашаюць аб чалавечым шчасці. Пэўна, што не ствараюць яго, але яму і не перашкаджаюць.

Адкуль існуе разумнае чалавечае жыццё, існуе і барацьба паміж „мець" і „быць". Вялікая частка людзей займаецца тым, каб „мець". Калі паглядзець па наваколлі, дык заўважым, што кожны хоча мець нейк уладкаванае сваё жыццё. Ці то ў выніку працы на полі, ці то працуючы на фабрыцы, ці ў школе. Уладкаванне жыцця займае, наогул, многа часу, і нярэдка аказваецца, што чалавек недзе па дарозе згубіў шчасце або проста яго не заўважыў, заняты стваранием матэрыяльнага дабра.

Багаты чалавек хацеў бы яшчэ пабыць. Так нармальна, па-людску быць, не за грошы і не за багацце. Ён ведае, што існуе іншае жыццё: спакайнейшае, весялейшае, духовае, але аказваецца, што купіць яго нельга за ніякія грошы.

Свет мараў, думак адрывае чалавека ад рэчаіснасці і па гадах „быцця" аказваецца, што нічога не маем: ні элегантнай кватэры, ні машыны. Калі маем жонку і дзяцей, дык яны кожны дзень табе напамінаюць, што яны з-за твайго „быцця" жывуць горш ад суседа, які ў жыцці не прачытаў ніводнай кніжкі. І ў гэтым заключаецца дылема, барацьба паміж „мець" і „быць".

Адны кажуць, што лепей мець, другія — што быць, трэція — мець і быць. Але чалавечае жыццё не ідзе па шаблону, яно проста непаўторнае і таму „мець" і „быць" мусяць існаваць, каб мы і мелі, і былі.

**МІХАСЬ МАХНАЦКІ**

# НА БІБЛІЯТЭЧНАЙ ПАЛІЦЫ

Гмінная публічная бібліятэка ў Дубічах-Царкоўных знаходзіцца ў цэнтры вёскі. Займае яна тры памяшканні ў мясцовым Гмінным асяродку культуры. У ёй 9750 тамоў, у тым ліку і беларускія кніжкі. Апрача бібліятэкі больш дзесяці гадоў дзейнічае яе філіял у Старым Корніне. Бібліятэкамі кіруюць: Міраслава Семянюк-Мараўская ў Дубічах і Мар'я Вільчэўская ў Корніне. Абслугоўваюць яны больш-менш 420 пастаянных чытачоў.

Сёлета кіраўнічка гміннай бібліятэкі купіла 100 новых кніжак, але ніводнае на беларускай мове.

— Зараз у Дубіцкай гміне звяліся чытачы кніжак на беларускай мове, — кажа М. Семянюк-Мараўская. — Таму мы і не купілі ні аднаго выдання на беларускай мове.

Гэта ўжо тэма для чарговай публікацыі. Варта шырэй разглянуць гэтую праблему. У мясцовай школе вядзецца навучанне беларускай мовы. Дык як жа гэта так, што беларускія кніжкі нікому тут непатрэбны? Мясцовыя жыхары хаця і не гаворацъ на літаратурнай мове, але паўсюдна карыстаюцца яе дыялектам.

У Дубічах-Царкоўных найбольш чытаюць вучні пачатковых і ўжо крыху менш сярэдніх школ. Кожны выбірае сабе кніжку паводле свайго густу. Ну, у школьнікаў ёсць яшчэ абавязковыя „лектуры". У кожным класе іншыя.

Сярод дарослых вялікай папулярнасцю карыстаюцца кніжкі пра каханне, дэтэктывы, кніжкі польскія і рускіх класікаў. Многія зачытваюцца ў кніжках пра другую сусветную вайну. Іншыя адцаюць перавагу гісторыі.

Калі вучні чытаюць усё ж крыху з прымусу, дык пажылыя людзі ўжо не. Вось з чыстага зацікаўлення і дзеля асабістай прыемнасці многа кніжак чытае 87-гадовая Анастасія Рута — па 5—6 у месяц а то і больш. Яна з'яўляецца найстарэйшай чытачкай у гміне.

Яшчэ два гады таму ў Дубіцкай гміне існавалі бібліятэчныя пункты амаль у кожнай салэцкай вёсцы. Было іх дванаццаць. У 1992 і 1993 гадах іх ліквідавалі. А ўсё па простай прычыне: вясковыя жыхары пачалі менш і менш цікавіцца кніжкай, а і гмінная бібліятэка атрымлівала ўсё менш фінансавых сродкаў на свае патрэбы. У 1993 годзе Рада гміны адвяла на пакупку кніжак пяць мільёнаў злотых. Для параўнання нагадаем, што дзесяць год таму дубіцкая бібліятэка купляла тры разы больш кніжак, чымсьці ў гэтым годзе. У чытальні было тады 26 загалоўкаў газет і часопісаў, а зараз — усяго пяць.

Вядома, што цяпер кніжкі значна падаражэлі. Мо і таму не звядуцца чытачы ў гмінных бібліятэках. А, мабыць, будзе больш і больш. Усё менш прадстаўнікоў вясковай інтэлігенцыі купляе кніжкі ў сваю дамашнюю бібліятэку. І зноў прычына тая ж — бяднеем, пашыраецца беспрацоўе. Сельскія гаспадаркі, як вядома, далёка не ўсе рэнтабельныя. Адкуль жа тады браць грошы на кніжкі?..

**ЯНКА ПАДАРОЖНІК**

## ВАРТА ВЕДАЦЬ, ШТО...

Слова „скансэн" прыйшло да нас са Швецыі, дзе яно азначала абаронныя ўмацаванні, валы вакол крэпасці.

У нас гэтае слова азначае музей на вольным паветры, запаведнік або нават этнаграфічны парк з помнікамі народнага будаўніцтва, з абсталяваннем хат, з рэчамі і прыладамі, якія паказваюць культуру пэўнага рэгіёна ў натуральных умовах.

У нашай краіне шмат скансэнаў. Найбольшы з іх — музей народнага будаўніцтва ў Саноку. Вядомы таксама курпёўскі скансэн у Навагродзе, недалёка ад Ломжы. На высокай рачной тарасе, на яе крутым схіле да ракі Нарвы, прытуліліся драўляныя хаткі, стары млын-вятрак, гаспадарчыя будынкі-вазоўні, гаспадарскія дамовыя майстэрні, рознага роду паветкі. Побач — старыя лодкі, адной нават каля тысячы год, борці, вёслы, вазы і іншыя рэчы. Усё гэта абгароджана, як адзін панадворак, плотам са штыкет. Убранне хат засталося зусім такім, нібы тут толькі што выйшаў гаспадар і павінен зараз вярнуцца.

Музей у Навагродзе быў створаны ў 1927 годзе па ініцыятыве дацэнта доктара Адама Бартніка. Зараз у скансэне знаходзіцца каля тысячы экспанатаў, звезеных з розных курпёўскіх вёсак.

**(яц)**

# ЯК КАЛЯДАВАЛІ Ў ГАЙНАЎЦЫ

У нядзелю, 9 студзеня бягучага года ў Доме культуры ў Гайнаўцы адбыўся раённы агляд паасобных груп калядоўшчыкаў ды салістаў, якія спявалі калядкі. Удзельнічала ў ім трыццаць гуртоў і чатыры салісткі. Вельмі цёпла былі ўспрыняты публікай выступленні абрадавых калядных калектываў з Дашоў, Арэшкава, Чаромхі-вёскі, Макаўкі, Тыневічаў-Вялікіх і Вулькі-Тэрахоўскай, а таксама салістак Эдыты Цепялеўскай, Дароты Мацкевіч і Анны Сухадолы з Нараўкі ды Малгажаты Кэржбаўм з Гайнаўкі. Усіх іх журы кваліфікавала да выступленняў на ваяводскім аглядзе ў Чаромсе і ў Чорнай-Беластоцкай.

Варта адзначыць, што фальклорныя калектывы, якія выконваюць традыцыйныя формы калядавання выступалі са звёздамі ды з прывітаннем і пажаданнямі пасля праспявання адной, двух або трох калядных песень.

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

P.S. Сёлета 22 і 23 студзеня ў Доме культуры ў Бельску-Падляшскім адбудзецца Міжваяводскі агляд каляндоўшчыкаў. Прыемна адзначыць, што ў ім выступяць, між іншым, два беларускія фальклорныя калектывы: „Арэшкі" з Арэшкава (Гайнаўская гміна) і „Чыжавяне" з Чыжоў. Агляд пачнецца а гадзіне 15.



*Каляднікі з Дашоў.*
**Фота У. Завадскага**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Зорка
## старонка для дзяцей

*СТАНІСЛАЎ ВАЛОДЗЬКА*

### ДЫКТАНТ

А было ўсё гэта так.
Быў у класе ў нас дыктант.
А як скончыўся урок,
Мне сказаў настаўнік:
— Зрок
У цябе выдатны, Дзімка.
Колькі?
Я кажу:
— Адзінка.
А настаўнік кажа:
— Значыць
І ў журнале я адзначу
Зрок твой.
І адзінку так
Атрымаў я за дыктант,
Бо падглядваў увесь час
У суседкі з-за пляча.

### СНЕЖНАЯ БАБА

Я стараўся
Аж спацеў,
Ды такая
Як хацеў
Баба снежная
Мая.
Сам увесь у снезе я.

Дзед прыйшоў,
Пытае смешна:
— Мой ты ўнук,
Ці бабы снежнай?

### ЯКАР

Прызнаюся,
Не маню:
Калі я
Упершыню
Ўбачыў якар,
Запытаў:
— А кручок той
На кіта?

### НУ Й ГАРБУЗЫ

— Сёння бачыў я,
Бабуля
Гарбузы —
У нашай бульбе.
Аж спужаўся трошкі:
Гарбузы — на ножках!
Я да іх
Праз плот палез,
А яны —
Бягом у лес!

### КАША

Мама Машы плацце мыла,
Маша ёй абед варыла.
Хваліць мама:
— Ну і каша!.. —
Толькі... суп варыла Маша!



Белым пылам даль закрыта, ходзяць віхры вірам, прасяваюць снег на сіта у бясконцай шыры... **Я. Колас**

<u>З гісторыі Беларусі</u>

## Як адбіваліся нашы продкі ад крыжацкае навалы

XIII стагоддзе сталася часам сур'ёзных выпрабаванняў для многіх еўрапейскіх народаў і дзяржаў. На славянскія землі з поўдня абрынуліся незлічоныя орды стэпавікоў, а з захаду распачалі экспансію крыжакі.

Гэта былі рыцары з усёй Заходняй Еўропы, якія пасля няўдалых паходаў у Палесціну (з мэтай „вызвалення Божай Дамавіны") імкнуліся захапіць новыя землі. Адным з першых прыняло на сябе іх удар балцкае племя прусаў. І было вынішчана, а рэшта — анямечана. Імкнучыся адсекчы Полацкае княства ад мора, у 1201 годзе крыжакі ля вусця Дзвіны заснавалі Рыгу (дарэчы, паводле В. Ластоўскага, „рыга", або „рыгво", на старабеларускай мове азначае „вусце ракі"). З таго часу пачаўся іх ціск на Полацкую зямлю і іншыя старажытнабеларускія землі. У 1208 годзе яны захапілі полацкі горад Кукенойс — уладанне князя Вячкі, у 1209 — Герсіку, падыходзілі пад сцены Полацка. У адказ полацкі князь Уладзімір знішчыў іхныя ўмацаванні пад Рыгаю і Гольмам. Разам з наўгародцамі палачане білі крыжакоў на Няве ў 1240 годзе, а затым на Чудскім возеры ў 1242 годзе.

Гэтаксама і валадары новай беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага — ад Міндоўга да Вітаўта мусілі змагацца з крыжакамі. Ледзь не штогод на працягу амаль трох стагоддзяў сутыкаліся ў бітвах беларускія і крыжацкія войскі. Напрыклад, толькі ў часы княжання Альгерда (1341—1377) налічваецца блізу сотні набегаў крыжакоў на Беларусь і трыццаці паходаў беларускага войска ў адказ. У некаторых паходах нашае войска налічвала да 30 тысяч вояў.

Асаблівай мужнасцю і ваярскім майстэрствам вылучаўся князь Давыд Гарадзенскі. Шмат гадоў ён паспяхова адбіваў напады і наводзіў жах на крыжакоў і іх памагатых. У 1314 годзе, калі немцы напалі на Навагародак, Давыд з невялікім войскам падпільнаваў іх і ледзь не палову перабіў, захапіўшы паўтары тысячы коней і нарабаванае дабро. Прайшоўшы крыжацкім шляхам ад Навагародка ў адваротным накірунку, гарадзенскі князь знішчыў усе варожыя базы. Тым самым адступленне недабітых рабаўнікоў ператварылася ў панічныя ўцёкі. У 1319 годзе Давыд Гарадзенскі з 800 вершнікамі ўварваўся ў Прусію, захапіў некалькі славутых рыцараў-камтураў разам з іх майном. Неаднойчы ён хадзіў на дапамогу Пскову. У 1322 годзе разам з пскавічамі Давыд разбіў вялікае нямецкае войска. Было знішчана пяць тысяч крыжакоў. Падчас далёкіх паходаў Давыд Гарадзенскі вёў з сабою параўнальна невялікія аддзелы. Так, у паходзе на Брандэнбург у 1326 годзе ўдзельнічалі 1200 чалавек. Гарадзенцы дайшлі да Франкфурта-на-Одры. Не могучы перамагчы князя на пабаявішчы, крыжакі нанялі польскага воя Анджэя, які па-здрадніцку забіў Давыда Гарадзенскага нажом у спіну.

У 1410 годзе аб'яднанае войска Вялікага княства Літоўскага і Польскага Каралеўства дало рашучы бой крыжакам пад Грунвальдам. Гэта была найвялікшая бітва ў тагачаснай Еўропе, дзе сустрэлася блізу 80 тысяч чалавек. Ордэн быў разбіты ўшчэнт. Загінуў і крыжацкі магістр, камтуры, увесь цвет рыцарскага войска. Хоць пэўны час ордэн яшчэ існаваў, толькі аднавіць былую моц крыжакі ўжо не здолелі. З гэтага часу знікла пагроза з іх боку для земляў усяе Усходняй Еўропы.

## КРЫЖАВАНКА

| ■ | А | Б | В | Г | Д | Е | Ё |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | |
| 2 | | ■ | | ■ | | ■ | |
| 3 | | | | | | | |
| 4 | | ■ | | ■ | | ■ | |
| 5 | | | | | | | |

**Управа:** 1. разам з тэкстам складае песню, 3. даўняе верхняе адзенне з сукна, 5. раён Зямлі вакол Паўночнага полюса.

**Уніз:** А. малочны пажыўны прадукт, В. паэт, які піша лірычныя вершы, Д. абрад памінання продкаў у беларусаў, Ё. напр. плод парэчкі, суніцы, трускалкі.

Адказ складуць літары:
Г-5, В-3, Ё-5, Е-3, Б-1, Д-4, Е-1, Б-3.
Будзе ім назва драматычнага твора з сумным заканчэннем.

Адказаў чакаем два тыдні.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

**10**

## Лічы, ды не памыліся!

Колькі літар і колькі гукаў у словах *надзея, яблык, лью, ёмістасць, дзея, мядзведзь, дождж, аб'ём?* Свае запісы на лістках здайце ў журы, якое вызначыць, хто лепш разбіраецца ў суадносінах гукаў і літар.

Пакуль журы працуе, запішыце дзесяць слоў, у якіх колькасць літар меншая, чым колькасць гукаў, і дзесяць слоў, дзе адваротная з'ява. Тут дарэчы будзе ўспомніць тэксты, якія ведаеце на памяць, можна запаўняць абодва слупкі адразу, а не кожны асобна — усё гэта паскорыць выкананне: ацэньваецца не толькі якасць выканання, але і хуткасць — дадатковымі баламі. За памылкі, як звычайна, ачкі здымаюцца.

## Сакрэтны сказ

Юля сядзіць над сшыткам — лоб наморшчаны, бровы ссунутыя: нешта не атрымліваецца. Нарэшце звяртаецца да старэйшай сястры, якая таксама рыхтуецца да ўрокаў:

— Ева, дапамажы, калі ласка. Нам задалі вызначыць колькасць літар і гукаў у словах. З зычнымі я разабралася, а з галоснымі...

— Была няўважлівай на ўроку?

Юля вінавата апусціла галаву: сапраўды, гутарыла з сяброўкай пра новы фільм, аж пакуль настаўніца заўвагу не зрабіла.

— Ну, добра, я табе дапамагу. Я зараз скажу табе адзін сакрэт, і ты адразу ўсё зразумееш.

— Сакрэ-эт? — Юля нецярпліва падстаўляе вуха. — Скажы хутчэй, я нікому-нікому!

— *Юля, ён з'еў мой яблык.*

— Што-што? Яблык? — Юля разгублена глядзіць на Еву. — Хто з'еў? І пры чым тут яблык? — здзіўляецца яна і з крыўдай дадае: — Абяцала дапамагчы, а сама ў жарты!

— А гэта і ёсць мая дапамога табе — той самы сакрэт, абяцаны, — усміхнулася Ева і, бачачы, што сястрычка пакрыўдзілася, растлумачыла свой сакрэт: — Толькі, калі ласка, не трымай гэты „сакрэт" у сакрэце ад таварышаў: няхай і ім ён дапамагае.

А вы не згубілі дарэмна час на тым уроку мовы? Не? Значыць, вы ўжо здагадаліся, у чым сакрэт.

## Гук-асілак

Уначы, як і людзі, гукі мовы амаль усе спяць, а раніцай разам з імі пачынаюць працаваць. І вось аднойчы гукі мовы заспрачаліся, хто з іх найбольш працавіты. Мы, кажуць зычныя, бо нас больш — мы і больш зрабіць паспеем. Мы, пярэчаць галосныя, бо, хоць нас і менш, мы нароўні з вамі працуем. Спрачаюцца, вось-вось сварыцца пачнуць. Добра, што ўмяшалася гаспадыня Фанетыка:

— Ціха, гукі, не спрачайцеся. Вы ўсе ў мяне працавітыя, старанныя, але сярод вас усё ж ёсць сапраўдныя асілкі.

— Хто гэта, хто? — пачалі дапытвацца гукі.

— Галосныя. Вы ж ведаеце, што ў слове столькі складоў, колькі ў ім галосных. Вось стаіць галосны [э] і трымае на сабе аж чатыры зычныя — што атрымалася? Слова *сквер*. У слове *скрып* галосны [ы] таксама трымае чатыры зычныя. А бывае і больш. Але асілкі часам і самі, без зычных, спраўляюцца.

Спрэчка скончылася, гукі разышліся па справах, а Фанетыка звяртаецца да нас і прапануе пацвердзіць яе словы. Вось яе заданні: за 10 мінут напісаць словы, у якіх ёсць гукі-асілкі. Хто больш? І яшчэ: напісаць 10 слоў, дзе галосныя спраўляюцца з работай без зычных. Хто хутчэй?

## Літара без гука

Мяккі Знак аднойчы стаў у пачатку Алфавіта. Накінуліся на яго іншыя літары, пачалі адштурхоўваць, дакараць:

— Бач які! Наперад хоча! А сам нават гука свайго не мае...

Пакрыўдзіўся Мяккі Знак, пайшоў да Фанетыкі скардзіцца.

— Не сумуй, — сказала Фанетыка. — Так, у цябе няма ўласнага гука, затое ты можаш змяніць гучанне некаторых зычных, стаўшы побач.

— Я не хачу падыходзіць да іх! Яны ўсе такія цвёрдыя, што з Алфавіта мяне выштурхнулі!

— І правільна зрабілі, бо ты не на сваё месца стаў. Алфавітны парадак — строгі, кожнай літары — сваё месца. Ды ты не глядзі, што яны цвёрдыя. Яны не заўсёды такімі бываюць. Падбяры зручны выпадак, падыдзі да *Д* ці *Т, З* ці *С, Л* ці *Н*, стань пасля іх — адразу памякчэюць.

Мяккі Знак так і зрабіў. Яго не толькі не прагналі, а нават узрадаваліся:

— Якімі мяккімі мы сталі! Дзякуй, Мяккі Знак, што дапамог. Вялікую сілу ты маеш!

А вы ведаеце, у чым сіла Мяккага Знака? Дакажыце гэта на прыкладах. Ці на ўсе літары распаўсюджваецца яго сіла?

*(Працяг у наступным нумары)*




* * *

Антон хваліцца сярод сяброў, што на абед з'еў дзве талеркі баршчу. А яго малодшы брат дадае:

— Цяпер у нас на дзве талеркі менш.

* * *

— Скажы, Янка, — пытаецца настаўнік, — якія птушкі маюць крылы, а лётаць не ўмеюць?

— Абскубаныя з пер'я.

* * *

Настаўнік:

— Ты чаму спазніўся, Новак?

Новак: Бо... бо наш гадзіннік стаў.

Настаўнік: — А ты, Млынчык?

Млынчык: — Бо палец пакалечыў.

Настаўнік: — А Кароль?

Кароль: — Мне галава балела.

Настаўнік: — А ты, Краўчык, чаго плачаш?

Краўчык: — Бо... яны ўжо ўсё сказалі, а мне нічога не засталося!

* * *

Бабуля: — Калі ты не з'ясі кашы, паклічу паліцыю!

Лена: — Ты думаеш, яна будзе есці кашу?

* * *

— Мама, чаму ты мне даеш такі малы кавалак торта?

— Гэта не табе, а Ленанчцы.

— Леначчы? Такі вялікі?!

(л)

*ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА*

# СВІНТУШОК

*Казка*

Жылі-былі ў лесе Дзік з Дзічыхаю. Рылі сабе паціху дол — карэньчыкі выкопвалі, у дуброву хадзілі — жалуды збіралі.

Добра жылося Дзіку з Дзічыхаю. Адно засмучала: у іншых дзікоў дзеткі падбрыкваюць, а ў іх — ніводнага...

Калі настала вясна і ўсё наўкол забуяла, Дзічыха пайшла ў ельнік і прывяла ажно сямёра дзічанят. Слаўненькіх такіх, паласаценькіх... У кожнага яшчэ хвосцік свярдзёлачкам, лычык пятачком, вушка лапушком...

Убачыў такіх прыгожых дзетак Дзік, узрадаваўся:

— Цяпер весялей будзе!

І праўда. Куды Дзік з Дзічыхаю потым ні пойдуць — дзічаняты следам бягуць. І заўсёды стараліся паблізу бацькоў круціцца. Цалюткі дзень толькі і чуваць.

— А ці можна жалудок леташні падняць?

— А ці можна травінку пакаштаваць?

— А ці можна карэньчык з'есці?

Дзік з Дзічыхаю не нахваляцца: разумныя дзеткі ўдаліся! Не лезуць абы-куды і на ўсё дазволу просяць...

К лету дзічаняты падраслі, сталі нават без бацькоў адлучацца з дому. То ў суседні лог забягуць, то ў бліжні гай заскочаць — цікавіцца, што там ды як. Пабегаюць, павесяляцца — і назад.

Усё было б нічога, ды аднойчы самага меншага дзічка нібы хто падмяніў. За раніцу ажно тры шкоды зрабіў: Чаплі ставок скаламуціў, Крату агарод здратаваў, Мурашу вугал хаткі развярнуў.

Першая прыляцела Чапля, пачала скардзіцца:

— У такой вадзе нават апалоніка не ўбачу! Капайце мне новы ставок!

Прыйшоў Крот, таксама абураўся:

— Хіба так можна? Хто мне зараз грады перасее?

А Мураш не крычаў, не гразіўся, не патрабаваў. Ён толькі сказаў:

— Ах, Свінтушок, Свінтушок! Я цяпер і да зімы не адрамантую хатку...

Дзік з Дзічыхаю і слухаць не хацелі:

— Паклёп! Нашы дзеткі на такое не здатны.

Суседзі пайшлі, а ў Дзічка-Свінтушка яшчэ вышэй лычык задраўся: „Цяпер я нікога не баюся! Цяпер я магу нават самому Мядзведзю бярлог сапсаваць..."

Сказаў гэтак сам сабе Свінтушок і кінуўся па лясной сцяжыне. Бярэзнікам бяжыць — парохквае, асіннікам бяжыць — парохквае, а прыбег у дрымучы бор — пачаў насіцца наўкол, як падсмалены, ды прынюхвацца: дзе тут, маўляў, той славуты бярлог?..

Носіцца ён гэтак, носіцца, ды раптам зямля над нагамі як праваліцца, а сам ён як паляціць у нейкую прорву! Нават віскнуць не паспеў. А калі ачомаўся — здагадаўся: у воўчую яму трапіў!

Яма, як ноч, — цёмная. Страшна зрабілася Свінтушку, і ён падняў на ўвесь лес лямант. Маўляў, ратуйце! Маўляў, у пастку трапіў! Маўляў, мяне вось-вось ваўкі з'ядуць!..

Пачулі той лямант Дзік з Дзічыхаю, завохкалі, зарохкалі, кінуліся ў бор дрымучы. А прыбеглі — жахнуліся: сапраўды, аднаму Свінтушку адтуль не выбрацца!

Круцяцца ля ямы Дзік з Дзічыхаю, а даць рады ніяк не могуць. Але якраз Чапля са стаўка ляцела, заўважыла суседзяў за дзіўным заняткам, апусцілася побач, цікавіцца:

— Што гэта вы тут параблаеце, шаноўныя?

— Сынка ратуем, — нехаця адказаў Дзік. — Мо ты, суседачка, памагла б?..

Чапля падумала, падумала і кажа:

— Калі трэба, то трэба...

І ўзялася пасабляць.

Цягнуць яны яго, цягнуць, а выцягнуць не могуць. А тут ідзе Крот на свой агарод, заўважыў валтузню, спыніўся:

— Як жа ты сюды, Свінтушок, трапіў?

— Па дурасці, — замест Свінтушка адказала Дзічыха. — А мы вось з Чапляю ніяк не можам яго дастаць. Мо б ты, дружа Крот, дапамог?

Крот не адмовіў таксама.

Пачалі зноў цягнуць небараку. Цягнуць яны яго, цягнуць, а выцягнуць так і не могуць. Але тут якраз бег паблізу Мураш (ён бярвенне на рамонт хаткі насіў), убачыў незвычайную талаку, збочыў, зазірнуў у яму.

— Авой? Чаго ж ён залез туды?

На гэты раз ні Дзік, ні Дзічыха не сталі тлумачыць, паселі пад хвойкай, бядуюць. А Мураш паглядзеў, як у воўчай яме ад страху дрыжыць Свінтушок, і сказаў Дзіку з Дзічыхаю:

— Хоць ваш сынок і нарабіў нам шкоды, а пакідаць у бядзе яго нельга. Давайце дружней возьмемся!

На гэты раз усе кінуліся да ямы, ухапіліся хто за ножкі, хто за вушкі, хто за хвосцік-свярдзёлачак і — выцягнулі Свінтушка на сонейка.

Дадому ішлі ўсе разам. Наперадзе — Дзік з Дзічыхаю, за імі — Мураш, за Мурашом — Крот, за Кротам — Чапля, а за Чапляй Свінтушок валокся.

Яму было сорамна.

Калі падыходзілі да роднага лесу, Свінтушок нарэшце сказаў:

— Даруйце мне, добрыя суседзі! Я не буду болей шкоды рабіць!

І яму паверылі.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ГАЛЕРЭЯ ПУШЧАНСКІХ ДЗІВАЎ



У Белавежы жыве шмат цікавых, таленавітых людзей. Сярод іх ёсць мастакі, разбяры, паэты, расказчыкі, калекцыянеры, фатографы. Ды, і ці пералічыш усе прафесіі, якімі яны займаюцца? Некаторыя з іх здабылі паўсюдную славу, якая ўжо выйшла за задворкі Белавежы. Але ёсць і такія, якім проста на папулярнасці не залежыць. Калі пра іх незвычайныя зацікаўленні ці здольнасці нехта ведае, то звычайна найбліжэйшыя суседзі і сям'я. Да такіх майстроў належыць несумненна 68-гадовы Мікалай Вашкевіч. Я сам, хаця час ад часу, сустракаюся з гэтым чалавекам на вуліцы, нічога пра яго бліжэй не ведаў. Ажно ўлетку м.г. сп. Мікалая „рассакрэцілі" мне былы галоўны рэдактар „Нівы" Георгі Валкавыцкі і паэт Барыс Руско.

Мікалай Вашкевіч ужо адзінаццаты год на пенсіі. 32 гады працаваў ён на фабрыцы „Хімічная" ў Гайнаўцы, шмат гадоў кіраваў ейным шкіпінарным аддзяленнем. Працаўнік з яго быў добры, ніколі не здарылася яму, каб не выканаў плана. — Часта атрымоўвалі мы ўзнагароды, прэм'і, — кажа сп. Мікалай, — мелі магчымасць арганізоўваць забаўляльныя мерапрыемствы, наладжваць экскурсіі па Польшчы. Праявіўся М. Вашкевіч і як вынаходнік. У 1961 г. узяў ён патэнт (н-р 45581) на спосаб вырабу прэпарата „Рігo", які выкарыстоўваўся ў ахове лясных насаджэнняў ад грызуноў.

Незвычайным зацікаўленнем М. Вашкевіча з'яўляецца вышукоўванне ў карэннях ці галінах дрэў выяваў нейкіх звяроў, людзей або здарэнняў.

— Пачаў я гэтым цікавіцца, — расказвае сп. Мікалай, — 20 гадоў назад. Памятаю, ішоў я лесам і ў нейкі момант глянуў на карані старой сасны. Я ўбачыў у іх выяву ястраба. Прынёс яго дадому. Усе, каму паказваў, не маглі надзівавацца, як гэта натура магла гэтак дакладна адлюстраваць драпежніка. З гэтага часу пачаў я дакладней прыглядацца караням, галінам ці нейкім драўляным астанкам. І тады, калі знаходзіўся ў лесе, і працуючы на шкіпінарным аддзяленні, на пляцы якога пастаянна знаходзіўся запас карчажыны. Мне даволі лёгка прыходзілася „вылузваць" пасярод блытаніны каранёў розныя „дзівы".

І так пачалася накоплівацца калекцыя. М. Вашкевіч пачаткова захоўваў яе ў сваёй кватэры, але вельмі хутка не хапіла ў ёй месца. Тады частку калекцыі перанёс ён на гарышча. Але тры гады назад выпрашыў, што, у пакойчыку ў летнай кухні, стварыць нешта накшталт галерэі.

І, вось, супольна з Барысам Руско і аўтарам, наведваем выставу. У пакойчыку на паліцах стаіць звыш 60 экспанатаў. М. Вашкевіч пачынае пералік сваіх „лясных дзіваў" ад лася і аленяў. Лёгка распазнаем жорава, сіпа, ястраба, голуба. Таксама — мядзьведзя, малпы — паасобку і ў групе, нейкую марскую рыбу, чарапаху, нейкія гадзюкі — сучасныя і выкапнёвыя. Ёсць некалькі дыназаўраў.

— Глядзі, глядзі, Пятрусь, — раптам усклікае Барыс, — а тут пара палюбоўнікаў у абдымках!

— Там, далей, — паясняе сп. Мікалай, — маю яшчэ адну пару каханкаў — на гэты раз нейкіх гадаў. Побач іх танцуючая пара. Ёсць у мяне і танцуючая арабка.

Неўзабаве нашу ўвагу прыцягваюць... Напалеон, рэпліка паўсюдна вядомага помніка Шапэна, Носў каўчэг, дзядуля з палкай, дзяўчына на лодцы, касмічны карабель. Зрэшты, цяжка нават усё пералічыць: кожная фігура захапляе!

Цэннае ў фігурах сабраных сп. Мікалаем тое, што ён не выпраўляе натуры, а толькі абмяжоўваецца да правільнага экспанавання і, вядома, кансервацыі. Толькі зрэдку нешта адрэжа або ўставіць нейкую губу ці галінку, каб выцягнуць з фігуры ўсё багацце яе формы.

У 1971 г. М. Вашкевіч паказваў свае працы ў Гайнаўцы на выстаўцы, наладжанай пасля заканчэння Агульнапольскага конкурсу разьбы па дрэве для працаўнікоў лясніцтва і дрэваапрацоўчай прамысловасці. Пару фігураў там укралі. Наогул, шмат іх параздаваў ў падарунку сям'і і знаёмым. Крыху фігураў трапіла нат за граніцу. З дзесятак ляжыць у клуні ў чаканні на апрацоўку. На жаль, сп. Мікалай апошнім часам, як сам кажа, ужо менш займаецца сваім мастацтвам. А шкада, бо пры яго ўяўленні і воку мог бы яшчэ шмат якія дзівы выцягнуць з пушчы, для нашага захаплення. Я і Барыс Руско намаўлялі белавежскага збіральніка працягваць далейшыя пошукі. Ці пераканалі — час пакажа!

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота Эрнеста Валкавыцкага**



# НОВАЯ КНІГА ПРА КУРАПАТЫ

**„Курапаты". Артыкулы, справаздача аб археалагічных раскопках. 135 старонак. Беларускі інстытут навукі й мастацтва. Нью-Ёрк., 1993 г. Наклад — ?. Рэдактар — ?.**

Паводле Анатоля Франса, гісторыю ствараюць не пэўныя асобы, не „народныя масы" і нават не Бог, а выключна тыя, хто яе піша — г. зн. гістарыёграфы. Пры ўсёй, на першы погляд, парадаксальнасці такога сцвярджэння, французскі літаратар, безумоўна, мае рацыю: агульнавядома, што дробны, нязначны факцік можна падаць у дзясятках інтэрпрэтацыяў — згодна прыхільнасцям, густам, поглядам, а галоўнае — сумленнасці таго ці іншага хранікёра. Асабліва, калі размова вядзецца пра далёкія часы — сведкаў няма, дакументы не захаваліся...

Але любы сапраўдны гісторык мусіць абапірацца на грунт фактаў — а такімі могуць быць дакументы, сведкі і, натуральна, археалагічныя доследы. Толькі ў такім выпадку можа прэтэндаваць на аб'ектыўнасць.

З гэтага пункту гледжання новая кніга пра Курапаты, на мой асабісты погляд — адна з найбольш дасканалых кніжак па беларускай гісторыі нашага стагоддзя. Безумоўна, яе асноўнага аўтара, лідэра Беларускага народнага фронту „Адраджэнне", гісторыка, археолага, публіцыста і, як кажуць, яшчэ і паэта, сп. Зянона Пазьняка, прадстаўляць няма патрэбы — ягонае імя добра вядомае. А таму больш падрабязна — пра самую кніжку.

Выданне атрымалася двухмоўным — англійска-беларускім, бо, відаць, выдаўцы разлічвалі не толькі на беларускае асяроддзе па-за межамі Бацькаўшчыны, але і на больш „інтэрнацыянальнага" чытача. Кніжка складаецца з двух публіцыстычных раздзелаў, вядомых некаторым чытачам па публікацыях у штотыднёвіку „Літаратура і мастацтва" за 1988 год — артыкулаў „Курапаты — дарога сьмерці" (аўтарства Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва) і „Шумяць над магіламі сосны" (аўтарства Зянона Пазьняка), і выключна навуковага даследавання — справаздачы пра археалагічныя вышукі ў раёне масавых забойстваў.

Безумоўна, вялікая колькасць аб'ектыўнай інфармацыі — галоўная вартасць кніжкі. Падрабязная справаздача пра археалагічныя доследы (археалогія, што даследуе падзеі нашага стагоддзя — крыху дзіўнавата гучыць, ці не так?), шматлікія сведчанні відавочцаў масавых расстрэлаў, строга запратакаляваныя вынікі даследаванняў. Прачытаўшы гэтую кнігу, нават самы артадаксальны прыхільнік камуністычнае ідэалогіі мусіць задумацца, наколькі антыгуманная яна па сваёй сутнасці...

Аднак, тым не менш, нават такія даследаванні прыхільнікі марксісцка-ленінскага шляху ставяць пад сумненне — як, напрыклад, расейска-бальшавіцкая газетка „Мы и время", што выдае ў сталіцы суверэннае Беларусі палымяны рэвалюцыянер Віктар Чыкін (Нікольскі). Паводле гэтага выдання, у Курапатах не НКВД знішчала палітычных вязняў, а, нібыта, фашысты расстрэльвалі, інтэрнаваных з акупаваных падчас Другой сусветнай вайны краін, яўрэяў. Відаць, нават самыя заццятыя артадоксы разумеюць, што Курапаты не спрыяюць іміджу іх ідэалогіі...

Гэтую кніжку, як напамін і папярэджанне, варта было б спрэзентаваць кожнаму з народных дэпутатаў сучаснага беларускага парламента — хаця б з тае прычыны, што ў Доме Урада ўсё часцей чуюцца заклікі павярнуць час назад.

Але, наколькі мне падаецца, відавочна мізэрны наклад не дазволіць азнаёміцца з гэтай дасканалай гістарычнай распрацоўкай не толькі шырокай беларускай грамадскасці, не толькі „народным абраннікам", але і нават абмежаванаму колу беларускіх гісторыкаў...

* *Тытул, назовы і цытаты падаюцца згодна арфаграфіі арыгінала.*

(сл)




**Вельмішаноўныя спадарства рэдактары „Нівы"!**

Вітаю ўсіх вас вельмі сардэчна. Сёння, калі пішу, 6 студзеня, Куцця, заўтра — вялікае свята Нараджэння Госпада Ісуса Хрыста. Жадаю шчасця і здароўя вам і вашым сем'ям і лепшага новага, 1994 года.

Сягоння я пішу па-беларуску, як я даўней гаварыў, калі хадзіў у школу. Гэта было даўно таму і вельмі далёка адсюль, бо ў Маладзецкім сельсавеце, між Ушачай і Беразіной. Дома ў нас гаварылі па-польску, а ў школе і вёсцы — па-беларуску. У 1939 годзе разбілі нам усю сям'ю; маці адправілі ў Томск, бацьку ў Омск, старэйшага брата ў Вязьму, мяне за Смаленск, бо я, адзінаццацігадовы хлопчык, быў „врагом Советского Союза". Два гады я вучыўся па-руску ў Калодні за Смаленскам. У 1941 годзе прыехаў на канікулы на бацькаўшчыну і тут застала мяне вайна. У 1942 г. немцы забралі мяне капаць акопы у лясах ад Пышна пад Барысаў і Беразіну. Уцёк я з лагера 29 чэрвеня 1943 года проста ў савецкія рукі. Працаваў у калгасе. У 1945 г. апынуўся я ў Польшчы. Там, дзе я жыў, не было ні адной сям'і беларускай ці польскай, з якой не арыштавалі, не вывезлі каго ў Сібір, Мурманск, Урал... Усіх сэрцы плакалі. Жылі мы ўсе як браты, Каляды і Уваскрасенне святкавалі два разы...

**бр. Браніслаў Кавэцкі, Катавіцы**



# ПАВЕДАМЛЕННЕ МІЖНАРОДНАГА КАМІТЭТА БЕЛАРУСІСТАЎ

Міжнародны камітэт беларусістаў інфармуе, што ў 1994 г. нашай асацыяцыяй будуць арганізаваны, або з нашым удзелам праведзены наступныя навуковыя канферэнцыі:

1. „Беларуска-амерыканскія гісторыка-культурныя ўзаемаадносіны: традыцыі і сучаснасць". Менск, кастрычнік 1994 г. Колькасць удзельнікаў — да 80. У час канферэнцыі мяркуецца правесці пасяджэнне Міжнароднага камітэта беларусістаў.

2. „Яўрэйская культура Беларусі і яе ўздзеянне на беларускую і іншыя культуры". Менск, канец мая — пачатак чэрвеня 1994 г. Колькасць удзельнікаў — да 50.

3. „Беларуска-рускае культурнае ўзаемадзеянне канца 19 — пачатку 20 ст. (У гонар 150-годдзя з дня нараджэння і 100-годдзя прабывання на Віцебшчыне Ільі Рэпіна)" — сумесна з Віцебскім абласным краязнаўчым музеем. Віцебск — Здраўнева, пачатак верасня 1994 г. Колькасць удзельнікаў — да 30.

4. „Беларуска-балгарскія сувязі (мова, літаратура, гісторыя, эканоміка)". Менск, верасень 1994 г.

5. „Беларусь першай паловы 19 ст. і Ян Баршчэўскі (да 200-годдзя з часу нараджэння пісьменніка)". Віцебск — Полацк, лістапад 1994 г. Колькасць удзельнікаў — да 30.

Мяркуецца, што некаторыя канферэнцыі будуць часткова фінансавацца культурнымі і дабрачыннымі фондамі (праезд замежных удзельнікаў).

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыях просім прысылаць на новы адрас МКБ: **БЕЛАРУСЬ, 220050, МЕНСК-50, вул. Рэвалюцыйная, 15, МАБ.** Перавага пры разглядзе заявак (пры іншых роўных магчымасцях) будзе аддавацца сябрам МАБ.

**Міжнародны камітэт беларусістаў**

# ВЫСТАВА ВА ЎСТРОНЮ

Музей металургії і кавальства арганізаваў ва Устроню выставу працаў мастакоў з Польшчы і Беларусі, вынік летніх пленэраў (40 карцінаў). Прадстаўляюць яны найчасцей краявіды Шлёнскага Бескіду і старыя дамы. Сярод прац — 10 карцін беларускіх мастакоў, м. інш. **Віктара Апманца** (нар. у 1958 г. у Магілёве, працы ягоныя вядомыя ў Амерыцы, Галандыі, Італіі, Польшчы і Мароку), **Канстанціна Шаранговіча** (нар. у 1956 г. у Мядзелі, спецыяліст па кніжнай графіцы і жывапісу, супрацоўнічае з выдавецтвамі, ілюстраваў за 40 кніжак, карціны яго знайшліся ў прыватных галерэях у Польшчы, Ізраілі, Італіі), **Васіля Ясюка** (нар. у 1957 г. у Лепелі, спецыяліст па жывапісу, выкладчык на кафедры рысунку Беларускай акадэміі мастацтваў, яго карціны купляюць музеі, прыватныя галерэі ў Польшчы, Італіі, Ізраілі, Германіі, Амерыцы).

Наведвальнікаў выстаўкі было шмат, ахвотна таксама куплялі карціны.

**А. ГАЎРЫЛЮК**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# НЯСЕ СВАЕ ВОДЫ НЁМАН...

З Нёманам звязаны лёс Гродна і яго жыхароў, спачатку і ўвесь час. Васемсот год таму нёманскія самы мелі вытанчаныя густы — елі ласасёў — так сцвярджаюць археолагі. Зараз у мяжах Гродна ў Нёмане жыве, мабыць, толькі адзін сом — у вялікім віры каля Каложскай царквы, у самым глыбокім месцы. Можа з зямных істот толькі ён ведае колькі гадзін, дзён або гадоў лёс вызначыў Каложы, колькі ёй яшчэ стаяць на беразе.

Нашыя продкі былі прадбачныя — муры Каложы зроблены лягчэйшыя ад муроў іншых цэркваў таго часу — тое, што ў Кіеве і Ноўгарадзе паляпшала акустыку — галаснікі (замураваныя ў мур гаршкі), — у Каложы паляпшала яшчэ і канструкцыю, бо Каложа заўжды стаяла на стромым беразе, пад якім нёс свае хвалі Нёман. Царква будавалася на стагоддзі і прастаяла стагоддзі, хоць засталася ад яе палова. Хто вінаваты ў тым, што 140 гадоў таму палова Каложскай царквы звалілася ў раку? Хто вінаваты ў тым, што ізноў у рэштках муроў пайшлі рысы, што і аматарскае вока разгледзіць на набярэжнай пад царквой спаўзанне берага, яго схіленне ў бок Нёмана? Прырода? Час і лёс? Можа быць. Але і людзі. Гэта тыя хрысціяне з маскоўскага войска, якія разбурылі скляпенні, навазілі ўнутр храма зямлі, каб паставіць гарматы насупраць гарадзенскага замка! Гэта казакі Залатарэнкі, якія яе зрабавалі і падпалілі, хаця Гродна не баранілася і было ў іх руках! Гэта той „свойскі" мітрапаліт, які спачатку прачытаў ліст праваслаўнага ігумена Каложскага кляштара са словамі „пясчаная гара пад ёю ад дажджоў і крыніц абвальваецца...", потым спакойна дачакаўся абвалу, а ў 1857 годзе, каб нічога не рабіць, напісаў у Сінод: „Барысаглебская царква на Каложы не вызначаецца аніякімі ні архітэктурнымі, ні артыстычнымі асаблівасцямі і не заслугоўвае такіх вялікіх выдаткаў, якія патрабуюцца на яе выпраўленне"! Гэта тыя царскія бюракраты, якія мелі сродкі на збудаванне пасля паўстання 1863 года шмат новых праваслаўных храмаў, але на ўратаванне Каложы знайшлі не хутка, толькі пасля новага абвалу ў апсідзе! Гэта і тыя, якія адчынілі пасля вайны ў царкве антырэлігійную выставу з маскоўскіх плакатаў, а потым яна, зачыненая, прастаяла з гэтымі плакатамі ўнутры да пачатку васьмідзесятых гадоў, занядбаная і пакінутая! Гэта і той „ваявода", які ў палітычных мэтах „дзеля паляпшэння адносін паміж савецкай уладай вобласці і праваслаўем" адабраў царкву ў музея з „антырэлігійнай назвай" (між іншым гэты музей быў адзінай установай, якая пасля вайны правяла кансервацыю і дбала аб стане помніка) і аддаў яе ў рукі царкоўнай улады! Гэта і тыя іерархі, якія прызначылі ў Каложу айца Аляксандра, які зрабіў шмат чаго, але нічога дзеля ўратавання храма! Гэта і сябры створанага ўвясну камітэта па ўратаванню Каложы, якія шмат нагаварылі і напісалі пра гэтае ўратаванне, але не ў стане штосьці канкрэтнае сказаць ці напісаць у адказ на адзінае пытанне: „Колькі засталося стаяць царкве на Каложы?"!

Былі безумоўна і іншыя людзі. Людзі, якія станоўча ўплывалі на лёс. Калі я сучаснаму спецыялісту па геалогіі задаў пытанне: „Чаму ў 1904 годзе без механізмаў на Каложскай гары зрабілі 12 глыбокіх свідравін і, у дадатак, там дзе трэба, а не там дзе лёгка, а яго людзі „паўтарыць" гэта не ў стане?" — ён мне адказаў: „Людзі у той час былі іншыя". Іншыя людзі, як атрымоўваецца, былі і „пры Польшчы", калі па ініцыятыве каталіка Іодкоўскага, на грошы дзяржавы, але і на грошы прыватных асоб, частка якіх была каталікамі, каталік доктар Браніслаў Галіцкі зрабіў 4 даследчыя свідравіны. Можа быць менавіта гэтыя свідрвіны і высветлілі адну з галоўных прычын кепскага стану берага, прычыну магчымай гібелі Каложы ў найбліжэйшы час. Быў архітэктар Валерый Слюнчанка, які ў васьмідзесятыя гады і да канца свайго кароткага жыцця рабіў усё, каб выратаваць Каложу, і зрабіў шмат... Была і ёсць прыгожая спадарыня Лісіцына, якая пад маё слова гонару, у крэдыт, зрабіла копіі з невядомых раней архіўных крыніц па Каложы, хаця ў сённяшнім цяжкім фінансавым становішчы Расійскага гістарычнага архіва гэта быў амаль крымінал.

Што зараз можна зрабіць дзеля ўратавання Каложы? Магчыма ўжо нічога! Чаму? Ёсць падставы... Высокі стан вады ў Нёмане назіраецца ў сярэднім больш-менш рэгулярна праз 19 гадоў, а катастрафічна высокі праз 36. Гэта абазначае, што катастрафічная паводка на Нёмане можа адбыцца ў 1994-1997 гадах. Расейскія інжынеры заўважылі, што і пасля ўмацавання берага Каложскай гары ў 1896 годзе, ужо ў 1904 годзе, назіраліся працэсы спаўзання берага і на мурах царквы з'явіліся новыя рысы. Тое самае заўважылі і пры даследаванні 1933 года. Тое самае заўважыў і аўтар гэтых радкоў ужо пасля завяршэння кансервацыйных прац у першай палове 80-х гадоў. Толькі сляпы і той хто не хоча бачыць, пасля таго, як на „маячках" 1989 года пайшлі рысы, не зробіць высновы, што некарысныя працэсы ў глыбі грунту ішлі і ідуць увесь час. Што таму прычынай? Канешне, перад усім натуральныя геалагічныя працэсы. Але на гэтыя працэсы ў апошнія гады моцна ўплываюць так званыя „антрапагенныя з'явы". Палова ўсіх новых будынкаў у Гродне зроблена са жвіру, які здабыты з дна Нёмана. У тым ліку і ў межах горада. Тыя свідравіны, якія зрабілі ў дне Нёмана расейскія інжынеры сведчаць, што вадаўпорны марэнны падклад на дне ракі не вельмі магутны. Калі гэты падклад прабіты дзе-небудзь моцнымі механізмамі працаўнікоў рачнога парта, то гэта азначае наяўную змену гідралагічнай сітуацыі. У які бок — не ведаю! Каложскую гару абмываюць воды не толькі Нёмана але і ракі Гараднічанкі (яе ведаюць больш як „Ванючку"). У гэту рэчку адкрыты сцёкі больш за сарака калектараў з бруднай і агрэсіўнай вадой з гарадскіх вуліц і прадпрыемстваў. Як уплываюць гэтыя „араматныя" воды на Каложскую гару? Не ведаю! Уздоўж падэшвы пад гарой праведзены чатыры гады таму вельмі моцны калектар сцёкаў, з якога больш-менш рэгулярна б'е фантан „вадзіцы" з гродзенскай гарбарні. Як уплывае ён на гару? Не ведаю! Дзеля выгады гараджан з Каложскай гары былі зроблены сходы, каб яны з Новага парку маглі прайсці над Нёман. Сходы былі зроблены такім чынам, што амаль кожнае лета іх разбурае ліўнямі, іх трэба рамантаваць, але як гэтыя ліўні ўплываюць на гару і набярэжную пад ёй, а не на самыя сходы? — Не ведаю!

Некаторыя рэчы я ведаю напэўна. Першае — гэта тое, што Нёман у мяжах Гродна прабіў узвышша, што ягоная даліна вузкая і не мае поймы. Па-другое, склад нёманскіх берагоў — гэта не толькі пясок, гліна, жвір але і вялікія ці малыя слаі і лінзы з мергелю, крэйды, вапністага мулу. Па-трэцяе, са школьнай лаўкі я ведаю, што вада з кіслай рэакцыяй вышчалочвае вапністыя лінзы і на іх месцы атрымоўваюцца карставыя пустоты, над якімі часам правальваецца зямля. Я ведаю, што ўва ўсіх чатырох свідравінах доктар Браніслаў Галіцкі трапіў у 1933 годзе і на мергель, і на вапністы мул, і на крэйду (вапну). Але ані я, ані хто іншы не ведае, ці ёсць карставыя пустоты пад Каложай! Ані я, ані хто іншы не ведае напэўна, што з пералічаных вышэй рэчаў уплывае адмоўна на стан Каложы, а што не. І ўвогуле, колькі яна прастаіць!

Калі я знайшоў у пецярбургскім архіве памерныя чарцяжы незахаваўшыхся частак каложскай царквы, то я ляцеў у Гродна, як на крылах. А як жа! Гэта ж магчымасць аднавіць царкву, хай і на стан першай паловы XIX стагоддзя. Потым, калі я аналізаваў вопіс свідравін з 1904 года і высновы расейскай камісіі, чытаў геалагічныя справаздачы з 1933 года і справаздачу з 1990 года аб уплыве здабычы жвіру на стан Нёмана, — я спалохаўся! Каложа можа зваліцца ў раку яшчэ да пачатку рэстаўрацыі!

Добра, калі я — аматар у геалагічных справах — памыляюся. Добра, калі гэтыя мае памылкі спецыялісты доказна абвергнуць на картках даследнай працы. Але гэтай працы да сёння няма!

Што ж ёсць на сёння? Ёсць грошы, якія спадар Алег Трусаў здабыў на даследаванне Каложскай гары ўвясну мінулага года. Ёсць камітэт, які сабраў колькісь грошай і на штосьці можа іх выдаў. Ёсць спадар Дзмітрый Бубноўскі ў Менску, які на ўзроўні ўрада (як спадар Алег Трусаў на ўзроўні Вярхоўнага Савета) адпавядае за стан кожнага помніка дойлідства ў Беларусі. Ёсць адпаведная асоба на ўзроўні горада — спадар Аляксандр Хамко, які фінансуе і назірае за тым, „як іншыя, чым у 1904 годзе" людзі робяць свідравіны на Каложскай гары ў тым месцы, дзе „можно загнать технику". Ёсць Гродзенскі рачны порт, адзін з магчымых віноўнікаў сённяшняга стану Каложы; порт якому эколагі ўжо не даюць здабываць жвір; порт, які ўсё ж яшчэ да заканчэння геалагічных даследаванняў мог бы даць працу і заробкі сваім людзям, калі б пачаў умацаванне берага з боку ракі, калі б зрабіў увясну пляцоўку для тэхнікі, якая павінна была б працаваць на ўмацаванні схілу Каложскай гары. Ёсць добрыя сябры — кіраўнікі мэрыі Ліможа, якія спачатку прыватна мне, а зараз (і гэта добрая навіна) уладзе вобласці і горада, паабяцалі хутка дапамагчы спецыялістамі і магчыма сродкамі (каб толькі паспелі). Ёсць добры архітэктар — Вадзім Глінік, якога ў Менску прызначылі адпавядаць за Каложу, але ўлады галоўнага архітэктара праекта не далі, а гэта значыць, што ён, як і я, прыватная асоба. Вось, як мне здаецца, усё, што ёсць на сёння.

А што будзе потым? Потым будзе вясна. Будзе паводка, можа Бог уратуе, невялікая. Потым можа зноў спадар Алег Трусаў знойдзе грошы на Каложу ў дзіравым бюджэце. Потым можа дапамогуць французы. Потым можа спадар Бубноўскі нарэшце штосьці рашыць на ўзроўню ўрада, а спадар Хамко знойдзе для свідравін спецаў не горшых, чым у 1904 годзе. Можа будзе галоўны архітэктар праекта, які службова за ўсё адпавядае. Можа. А пакуль нясе Нёман свае воды...

**ІГАР ТРУСАЎ, гісторык,**
**Гродна**




*БАРЫС РУСКО*

**РОЗДУМ**

У смерці шырокі жэст.
У жорнах сваіх крышыць усіх і ўсё.
Жывыя — цешаць сябе надзеяй,
мёртвыя — цягнуць з кварты вечнасці сон.
Гэта не спектакль і не антракт,
і нешта іншае, чым дотык і ахвота.
Гэта — рэйд плыўца ў прывідны змест Ласкі.

**З КУБІЧНЫХ ДУЖАК**

З'явіўся я пылінкай з кубічных дужак
і расцвіў не кветкай, а чалавекам.
Запамятаў карусель лікаў
і здабытак поўны нулю.
Мясціўся я ў Нічым, як задума.
А цяпер мяшчуся ў дзесятай кашулі.
Ператварэнне.
Ператварэнне цела і душы.
У люстры дарогі адбіваецца аблічча таямніцы.

**РЭФЛЕКСІЯ**

Поўзаючы на адзіноце па Цішы,
не выгладзіш маршчын,
нават намацаўшы пульс зоркі
на грані свету, і зладзіўшы ігру
прывідных струн у глыбіні неўрону.
Знімаю шапку перад Маўклівым
і чакаю Нечага, што так мала значыць,
а прымушае ўсё поўзаць па Цішы.

**АДЗІНОТА**

Крадком адзінота ўпіваецца ў душу,
ператварае вочы ў слязу,
вусны ў маўчанне,
а цела —
у марскую зорку:
паўзе паміж зубамі дня,
каб урэшце легчы
дарожнай выбоінай.

## „НЕ НА ЧАЛАВЕЧУЮ МОЦ І ВОЛЮ"

Я згодны з меркаваннямі а. Канстанціна Бандарука, выказанымі ў ягоным цікавым артыкуле „Ці варта было?" („Ніва" н-р 52/93) наконт польскага капіталізму. Ён сапраўды — дзікі, як у ватазе ваўкоў — дужэйшы перамагае слабога. Не толькі Польшчу захапіў такі капіталізм.

Думаю, аднак, што а. Канстанцін, як чалавек духоўны, добра ведае галоўнае, асноўнае: усё ёсць у руках Божых. Бог і гэтым разам дапусціў да перамен; як дапусціў да ўзнікнення і існавання камунізм, так і развaліў яго пабудовы, як домікі збудаваныя з запалак. Сцярпеў тое, як бальшавікі-д'яблы здзекаваліся над Ягоным Імем і вучнямі Хрыстовымі і ў душу чалавека ўлівалі сваю атруту, ад якой той траціў свой гонар, веру, чалавечнасць. Можна лічыць, што гэтае пекла Польшчу абышло бокам, бо не было ў нас сапраўднай „камуны". Здзівіцца можна толькі, што некаторыя нашыя людзі ўсё яшчэ шкадуюць таго часу і бядуюць, што за савецкім часам лепш жылося, і плачуць над сённяшнім цяжкім часам. Апостал Павел у Пасланні да Галатаў (6 раздзел, 7 радок) піша: „Не ашукоўвайце сябе! (...) Бо што чалавек пасее, тое і пажне!" Вось тое зло, што зрабілі, і пажынаюць цяпер бальшавікі! Нявінная кроў заўсёды адпомшчана! Рускі народ многа адпакутаваў, але і ён прыклаў сваю руку да дзікіх бальшавіцкіх учынкаў. Ці адно пустыя лозунгі мелі выкарміць народ? „Наша славная молодёжь!" Добрую памятку пакінула па сабе яна ў Афганістане! І што цяпер мае Расея? Зладзействы, мафію, распусту, прастытуцыю!..

Ці мы галасуем, ці не за такія змены, аб якіх успамінае а. Бандарук — ніхто з людзей не паверне кола гісторыі назад! А тое, што практычна намі кіруе старая наменклатура? Вядома, як цяжка пазбавіцца ад вошай, блашчыц ды прусакоў, калі не знойдзецца якi радыкальны хімічны сродак!

**М. ПАНФІЛЮК**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ШТО ДАЛІ ПРУЖАНЫ ПАДЛЯШШУ

Адміністрацыйным цэнтрам Белавежскай пушчы раней былі Пружаны. Пісьмовыя крыніцы сведчаць, што ў другой палове XII ст. быў там княжацкі двор і псярня. Цяпер пушчанскім асяродкам у Польшчы ёсць Белавежа, а ўсходняй часткай гаспадарацъ Камянюкі ў Брэсцкай вобласці. Праз Пружаны ішоў паляўнічы шлях. Асабліва для царскіх гасцей трэба было прыгожа спяваць у царкве, што стварыла музычную традыцыю, якую прадоўжыў Рыгор Шырма з таго ж раёна родам, нястомны прапагандыст дасягненняў нацыянальнай літаратуры і музыкі, энтузіяст харавой справы.

Дзесяцітысячны горад Пружаны ў трыццатыя гады стаў эпіцэнтрам містычнай энергіі, якая слала свае праменні і на Падляшша. Аднойчы быў я ў беластоцкім Гарадку, калі там настаяцелем быў цяперашні мітрапаліт. І вось „у чырвоным кутку” на плябаніі вісела толькі адна папяровая іконка Пружанскай „галгофы”. Яна была напісаная з лепшых узораў мастацтва. Галава Хрыста на крыжы нагадвала малюнак іспанскага мастака Веласкеса, а Мадонна напісана была паводле лепшых ікон Візантыі. Яна ўся рвецца да свайго Сыночка, з вока ліецца серабрыстая сляза. Аднойчы, пасля Пасхі, жанчыны мылі падлогу ў царкве і заўважылі, што з гэтай слязы цячэ смуга. Спачатку падумалі, што вада капнула са столі. Сцерлі яе хусткай, але слёзы паплылі зноў. І цяклі яны не мінуту, а некалькі дзён. Я паклаў у тыя слёзы свой палец і зрабіў на сваёй галаве знак крыжа. Варшаўская мітраполія прызнала гэтую з'яву цудоўнай, ды выпусціла згаданую ікону. Яна ёсць і ў айца Рыгора Сасны. Усе тлумачылі сабе гэта як дрэнны знак. Гаварылі: будзе трагедыя. Так менавіта і сталася. У кнізе „Памяць” (Мінск 1992) пішуць: „Больш чым 2,4 тысячы (жыхароў Пружаншчыны) загінулі і прапалі без вестак на вайне. Горад Пружаны ляжаў у руінах... Былі спалены і разбураны больш за дзесяць тысяч гаспадарскіх будынкаў (раёна), у тым ліку электрастанцыя, хлебазавод, мясазавод, 17 школ, 2 бальніцы, каля 7 тысяч жылых дамоў”. Трэба сказаць і пра ўсё яўрэйскае насельніцтва, спаленае ў крэматорыях.

Перад вайной у Пружанах была і другая царква: Прачысценскі храм, велічэзны, скіраваны на захад, бо яго будавалі католікі, ды не хапіла ў іх грошай. Адкупілі муры і дабудавалі купалы праваслаўныя жыхары. Там служылі святары: Пілінкевіч, Самковіч ды яшчэ адзін Міpановіч, які пасля вайны быў у Сасноўцу ды ў Торуні. На прыхадскіх фэстах два хоры спявалі разам. Лепшым рэгентам (псаломшчыкам) быў Рыгор Сіняк з царквы Аляксандра Неўскага, худзенькі, маленькі ды з вялікім характарам. Мала яму было спяваць сольныя партыі партэсных спеваў (і на 8 галасоў) дык яшчэ ў гарадскіх залах (свецкіх) даваў канцэрты царкоўнага спявання. Я сам у яго быў чцяцом і спеваком. Выйшаўшы цудам з вайны, прайшоўшы шлях Смаленск — Варшава — Берлін, спаткаўшы святара Аляксея Знаско (яго бацька мяне хрысціў у Брэсце) я яму і сказаў:„Самая прыгожая ў свеце — поліфанічная музыка (царкоўная) XVIII ст. Яна — праваслаўная, натхняе і лечыць цела людское. Калі так, дык давай спынім „казлагласіе”, карыкатуру геніяльных партытур; годзе рабіць спеўку (рэпетыцыі) ў часе Літургіі. Трэба наняць прафесіяналаў з філармоніі, хаця яны і католікі”. Так і сталася. Хор у Варшаве на Волі стаў найлепшым царкоўным хорам. Ён даў тры канцэрты: 1/ У малой зале філармоніі — выбраныя літургіі на польскай мове (у маім перакладзе) для праваслаўных дэканаў — дырыжыраваў Эдвард Йозайтыс. 2/ У цвінтарным вольскім храме ў памяць першага мяфодзейскага хрышчэння Польшчы, адбылася на польскай мове Абедніца, гэта значыць літургія без еўхарыстыі з удзелам святароў розных хрысціянскіх рэлігій. 3/ Канцэрт у баптысцкай капліцы ў Варшаве з тае ж прычыны. Дырыжаваў падчас двух апошніх канцэртаў брат Уладзіслаў Йозайтыс.

Пасля рэгентам на Волі стаў а. Юрка Шурбак, які пачаў даваць канцэрты ў евангеліцкім храме Св. Тройцы ў Варшаве і па ўсім свеце. Паявіліся і плакаты. Тады Дух Святы залунаў і над дырэктарам Міколам Бушко ў Гайнаўцы. Ён пачаў першы ў свеце Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі. У 1992 годзе прыехаў туды хор і з Пружаны: заваяваў другое — самае лепшае на ўсю Беларусь — месца. Кола замкнулася.

**СЭРАФІН КОРЧАК-МІХАЛЕЎСКІ**

# ПАМЯЦІ СЯРГЕЯ КАРНІЛОВІЧА

## Частка першая

Калі я быў у Менску, даведаўся, што ў Амерыцы памёр Сяргей Карніловіч. Гаворачы шчыра, я не паверыў у гэта. Калі аднак прачытаў у „Беларусе” некралог — не магло быць сумненняў, што гэта праўда.

Першы раз сустрэўся я з Сяргеем у канцы шасцідзесятых гадоў. Быў Ён, бадай што, першым амерыканскім беларусам, які прыехаў у Польшчу з выразным намерам пазнаёміцца з усімі праявамі беларускага жыцця ў Польшчы. Памятаю, што было гэта лета і Беларускае таварыства ладзіла фэстыны. Сяргей Карніловіч выявіў жаданне паехаць на святкаванні ў Сушчу. Ён цешыўся, як дзіця, размаўляў з людзьмі, рабіў здымкі. Вярнуўшыся ў Беласток, запрасіў у гасцініцу „Крысталь” некалькі чалавек. Расказваў пра Амерыку добрасумленна, без самахвальства і ідэалізацыі. Сапраўды, быў Ён для нас Калумбам, які адкрываў далёкі і невядомы нам край. У гэтым часе ў „Крысталі” працавала родная сястра маёй студэнткі. Гэта яна мне шапнула, што ў гасцініцы знаходзіцца некалькі асоб з бяспекі, якія сочаць за Карніловічам. Гэта мяне моцна ўкалола, аднак не напалохала, бо наша яднанне з Карніловічам мела чыста беларуска-культурны, а не палітычны характар. Калі я шапнуў Карніловічу аб сочцы, Ён не збянтэжыўся, захоўваўся таксама як і раней. І ўсё ж такі не абышлося без прыкрых паслядоўнасцей. Калі Сяргей Карніловіч пакідаў Польшчу, Яго ў аэрапорце затрымалі, зрабілі дэталёвы вобыск, уключна са сцягваннем з ног шкарпэтак. Аднак не гэта было для Яго найбольш прыкрым. Найбольш балюча перажыў Сяргей тое, што супрацоўнікі бяспекі выцягнулі з фотаапарата плёнку і канфіскавалі яе. Аб усім гэтым расказаў мне Карніловіч, калі прыехаў у Польшчу другі раз. Зрэшты, апавядаў аб гэтым таксама ў Амерыцы, калі мы там сустрэліся ў 1981 годзе.

Выразныя праследаванні Сяргея ў Польшчы і ў Савецкай Беларусі, куды Ён таксама ездзіў, не паўстрымалі Яго ад усё новых прыездаў на Беласточчыну і родныя Докшыцы. Сяргей Карніловіч быў чалавекам вялікай душы і яна патрабавала беларускай стравы, якую Ён знаходзіў на ўсходняй Беласточчыне і сярод сваіх землякоў у БССР.

Сяргей — чалавек выключна балючага лёсу. У 1942 годзе немцы яго як трынаццацігадовага хлапчука вывезлі ў Германію. Пасля многіх пакутніцкіх ваенных блуканняў, у 1950 годзе пераехаў у Амерыку, дзе асеў у Кліўлендзе. У хуткім часе стаў Ён душой мясцовай беларускай грамадскасці і адным з вядучых беларускіх дзеячоў ва ўсёй Амерыцы. Гэта Ён прычыніўся да ўзнікнення ў Кліўлендзе знакамітага цэнтра „Полацак”. Гэта Ён праславіўся як чалавек выключнай ахвярнасці, добразычлівасці, альтруізму і адданасці беларускай справе.

Быў бедны і жыў як Аквінскі Фама, у адным пакойчыку, у якім змяшчалася і канцылярыя, і зборны пункт рэчаў, якія збіраў ад амерыканскіх беларусаў і пасылаў у Польшчу патрабуючым дапамогі беларусам.

Гэта Сяргей Карніловіч запрасіў мяне ў 1981 годе ў ЗША, і я побач Яго пражыў болей як два тыдні ў Кліўлендзе ў доме Кастуся Калошы. Меў я дасканалую магчымасць прыгледзецца да жыцця гэтых двух самотных людзей: Сяргея і Кастуся, з сэрцаў якіх нават на момант не знікала святое аблічча Радзімы.

Гэта Сяргей Карніловіч пазнаёміў мяне з выдатнымі кліўлендскімі беларусамі: Е. Кабекам, А. Стрэганем, Я. Раковічам, Е. Яраховіч, і сям'ёй Калядоў і ўсёй цудоўнай грамадой верных сыноў Беларусі, якія захавалі родную мову, сваю рэлігію, старую абраднасць і цудоўную беларускую гасціннасць. Усюды, дзе б я не быў сярод кліўлендскіх беларусаў адчувалася, што ўсе трактуюць Сяргея як чалавека, на якім трымаецца высокі гмах беларушчыны. У гэтым горадзе любілі Яго дарослыя і ўсе дзеці, якія гарнуліся да Яго як да чалавека, ад якога прамянюе добразычлівасць і сардэчнасць. Зрэшты, любілі Яго і дзікія звяркі, якія мелі свае норы побач дома, у якім жыў Карніловіч, і якія сярод белага дня бегалі пад вокнамі.

*(працяг будзе)*

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# УЦЁКІ

## 4

### Трэці дзень уцёкаў.

Я прачнуўся першы. Побач, на сене, моцна яшчэ храплі Валянцін і Пэтэр. Святло моцна ўціскалася шчылінамі ў пуню. Ноч была халодная, але ў сене было нам цёпла. Я ляжаў і цешыўся. Сёння была ўжо іншая сітуацыя. Учора немцы маглі нас арыштаваць і паслаць у лагер. Цяпер я ўжо быў спакойны, што ніхто нас не затрымае. Наш метад, каб гаварыць немцам, што мы ўцякаем ад фронту, ад рускіх, апраўдаўся. Немцы былі ў такім стане, што перасталі цікавіцца адзінокімі ўцекачамі-бежанцамі з-пад фронту. А нашы дакументы, выдадзеныя ў Гайльсбергу, былі сапраўднымі і нават жандар не мог дадумацца, што мы не бежанцы, а ўцекачы з атрадаў, якія капаюць акопы. Цяпер мы будзем смела ісці днём уздоўж шашы ў напрамку Гайльсберга.

Прачнуўся і Валянцін, усміхнуўся. „Ну, мелі мы шчасце, нам павязло”, — сказаў ён. Сарваўся і Пэтэр, пачуўшы яго голас. „Ну што ж, устаем і ідзем?” — паглядзеў ён на нас. „А чаго мы маем спяшацца, — адказаў Валянцін, — прыйдзем да баўэра, то ён загоніць нас да працы”. „Так, — пацвердзіў я, — цяпер будзем ісці паволі. Да Гайльсберга асталося нам 25 км. Так што, калі мы сёння пройдзем кіламетраў з дваццаць, то будзе добра. Паблізу горада заначуем, а заўтра дойдзем ужо да Памэйрэн”. Устаўшы, мы пайшлі падзякаваць немкам за гасціну і начлег. Яны нас чакалі са снеданнем: яешня, мяса, хлеб з маслам і чорная збожжавая кава. Жанчыны снедалі разам з намі за адным сталом. Старэйшая гаварыла толькі на нямецкай мове, малодшая, прыгажэйшая, добра гаварыла папольску; яна — дваюрадная сястра мужа старэйшай жанчыны і прыехала да яе з-пад Голдапі, далей ад фронту. Жанчыны цікавіліся, адкуль мы, як сюды папалі і чаму не носім значка з літарай „Р”. Мы сказалі ім, што мы — беларусы, але жылі ў Польшчы і таму ведаем польскую мову. А Пэтэр — літовец і яму не трэба насіць значка. Старэйшая жанчына часта паўтарала, што яна вельмі баіцца, каб яе муж, які дзесьці загінуў на ўсходнім фронце, не мучыўся так як мы, альбо яшчэ горш. Яна верыла, што ён папаў у рускі палон і там жыве. Жанчыны далі нам бутэрброды на дарогу і прынеслі нам кучу адзення, каб мы сабе выбралі, што нам падыходзіць. Я ўзяў толькі дзве кашулі, Валянцін падабраў сабе нават штаны, а Пэтэр — пінжак.

На шашы спаткалі мы на возе ваеннапалоннага француза, які ўчора нараіў нам гэтых жанчын. Ён вяртаўся з поля, усміхнуўся і запытаў: „Es war alles gut?” (Ці было ўсё добра?) „Ja, wir danken dir sehr!” — адказаў я (Так, мы табе вельмі дзякуем). Ён памахаў нам рукой і мы пайшлі наперад. Па шашы дайшлі мы да невялікага лесу, увайшлі глыбей і там скінулі і пакінулі ніжнія нашыя кашулі, у якіх было поўна вошай, а надзелі сабе свежыя. Мы ішлі паволі, часта сядалі ля шашы, адпачывалі і гутарылі.

— Цяпер немцы вельмі змяніліся, — гаварыў Пэтэр. — Гэта не тыя самыя людзі, якіх я калісь спатыкаў. Калі мяне прывезлі сюды ў 1942 г. і нас гналі ў арбайтсамт у Гайльсберг, то па абодва бакі дарогі стаялі немцы, старыя, маладыя, а нават дзеці, глядзелі на нас, як на малпы, смяяліся з нас, часта плявалі, а малыя дзеці нават падбягалі і давалі выспятка. Нехта абсыпаў нас пяском.

— Тое самае я бачыў у Вормдзіце ў сакавіку 1943 года, калі нас гналі ў лазню, — адказаў я.

— Цяпер яны ўжо ачнуліся і чуюць, да якой бяды давёў іх Гітлер, — пацвердзіў Валік, — хаця, калі пасадзілі мяне ў турму ў Кёнігсберг, яны са мной абыходзіліся горш, чым з сабакам: білі мяне, дзе папала. Колькі я тады перацярпеў, нельга словам расказаць. Здзекаваліся і ўсё паўтаралі: прызнайся і прызнайся. А да чаго я мог прызнацца, калі ўсе абвінавачанні былі прыдуманыя? Сябра напісаў мне ў пісьме такія словы: „Сяджу я пры вогнішчы, пасу коней, маю аловак як фігу і да цябе пішу пісьмо”. Яны да мяне: прызнайся, што гэта пісаў бандыт, а аловак, як фіга — гэта пісталет, і кулаком мяне па твары. Я ім гавару, што сябра выводзіў нанач коней на пашу і што аловак, як фіга, абазначае малы аловак, а не пісталет; а яны не вераць і мяне б'юць.

Ён падняў кашулю і паказаў на целе шрамы ад бізуноў. Ногі ў мяне перасталі ўжо балець, але разбалеўся страўнік. Таксама скардзіўся Пэтэр. Тры месяцы на галодным пайку далі знаць аб сабе, калі мы нарэшце наеліся ў жанчын тлустай яешні. Па дарозе зайшлі мы на хутар і папрасілі кіпетню. Гаспадыня сказала, што няма ў яе гарачай вады. Таксама зрабіла другая жанчына на суседнім хутары і толькі трэцяя вынесла нам на дарогу літр кампоту. І так паволі падышлі мы амаль пад сам горад. Якраз папаўся пры шашы хутар. Валянцін пайшоў папрасіць пераначаваць. Выходзіць і кажа: „У хаце толькі немка з дзяцьмі, яе муж паехаў у горад. Без яго згоды яна не можа нас прыняць. Трэба чакаць на ейнага мужа. Але запрасіла нас на вячэру. У яе ёсць нейкі суп, яна яго падаграває і кажа, каб мы прыйшлі за стол”.

Я і Пэтэр не вельмі хацелі есці, бо балеў страўнік. Валянцін быў злосны, што мы марудзім. Наканец мы ўвайшлі ў дом. На стале ўжо стаялі талеркі і каструля з гарачым супам. Валянцін хутка еў, а мы марудзілі, але паволі з'елі па талерцы. Гарачы суп нават памог нам. Страўнік перастаў так моцна балець. Жанчына цікавілася, адкуль мы і куды ідзем і спачувала нам, калі мы сказалі, што ўжо некалькі дзён так блукаем. Пасля вячэры мы выйшлі і чакалі ля шашы прыезду баўэра. Ужо цямнела, калі ён з'явіўся. Немец скрывіўся, калі даведаўся, чаго мы ад яго хочам, але пагледзеўшы, што ўжо цямнее, згадзіўся. „Калі жонка мая вам не адмовіла, то і я не адкажу”, — сказаў ён. Завёў нас у пуню з сенам. Мы падзякавалі яму і пайшлі спаць.

*(працяг будзе)*



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ЯСАКАР (TOPOLA CZARNA)

Па-лацінску дрэва называецца *Populus nigra* L. Гэта вялікае дрэва з сям'і вербаватых (*Salicaceae*), якое расце ў Еўропе і Азіі. Часта яго садзяць каля хат і ў парках. Ясакар, дрэва з вялікай кронай, расце да вышыні 30 метраў.

Зімой або ранняй вясною збіраюць з лячэбнымі мэтамі сыравіну ясакара — пупышкі перад самым лопаннем. Спачатку зразаюць галінкі, а пасля рукамі зрываюць з іх пупышкі, якія сушаць у ацяпляемых сушарнях у тэмпературы не вышэйшай 30°С. Атрымаем сыравіну — пупышкі ясакара (*Gemmae Populi*). Часамі збіраюць таксама маладое лісце ясакара *Folium Populi*, якое сушаць у натуральных варунках.

Прэпараты з пупышак ясакара дзейнічаюць на арганізм мачагонна, дапамагаюць пры гарачцы, маюць нязначнае напотнае ўздзеянне, супрацьзапальнае і супрацьболевае, асабліва пры хваробах мачавых шляхоў і рэўматызме.

Знешне прэпараты з гэтага дрэва дапамагаюць хутчэйшаму загойванню ран і змяншаюць запальныя станы слізістай абалонкі задняга прахода, похвы і скуры.

Прэпараты з ясакара, вядома, калі прымяняюцца яны ў акрэсленых дозах, не выклікаюць ніякага шкоднага ўздзеяння на арганізм.

Адвар з пупышак ясакара, такім чынам, п'юць пры запальных станах нырак і мачавых шляхоў перш за ўсё старэйшыя людзі.

У спалучэнні з іншымі зёлкамі *Gemmae Populi* прымяняюць пры болях суставаў і мышцаў, а таксама пры нервабалях, грыпе і наогул хваробе ад прастуды (з увагі на гарачку). Уваходзяць яны ў склад зёлкавай сумесі *„Pyrosan"*.

У якасці знешняга леку адвар з пупышак ясакара выкарыстоўваецца для прамывання і кампрэсаў пры запальных станах похвы, а кампрэсы са стоўчаных пупышак альбо мазь з гэтай сыравіны прыкладаюць да цяжка гаючыхся ран і да задняга прахода пры гемароі.

Маладое, высушанае лісце ясакара характарызуецца падобнымі да пупышак якасцямі і выкарыстоўваецца, калі няма пупышак.

## ПРЭПАРАТЫ

**Адвар з пупышак ясакара**

Лыжку раздробленых пупышак заліць шклянкай цёплай вады і закіпяціць пад покрыўкай. Настойваць 15 хвілін, тады працадзіць. Піць па 1/4—3/4 шклянкі 2—4 разы ў дзень паміж ядою як мачагонны і ачышчаючы мачавыя шляхі сродак, а таксама як напотны сродак і ад гарачкі пры грыпе і хваробе ад прастуды.

Той самы адвар можна выкарыстоўваць знешне для кампрэсаў і прамывання.

**Ясакарава мазь**

1 чайную лыжачку пупышак расцерці ў ступе як мага драбней і перамяшаць дакладна з 30 г мазі *„Alantan"*. Прымяняць пры цяжка гаючыхся пашкоджаннях скуры, хваробах задняга прахода, пры нарывах на нагах, выкліканых тромбафлебітам.

**Узмацняючы напітак**

Раздробніць і змяшаць пароўну пупышкі ясакара, плады дзікай ружы, ягад рабіны і барбарысу. У 100 г сумесі ўліць 1 літр кіпячонай вады, дадаць 300 г цукру і 100 г дражджэй. Паставіць у хатняй тэмпературы ў зачыненым слоіку, каб наступіла ферментацыя. Праз 5 дзён працадзіць, дадаць 50 г мёду і далей ферментаваць 3 дні. Тады дадаць 0,5 г бензаэсавай кіслаты, паставіць яшчэ на 1 дзень і разліць у бутэлькі. Атрымаецца напітак, які рэгулюе абмен рэчываў, выдзяленне мачы і апаражненне, папярэджвае мачавыя і жоўцевыя камяні, а таксама агульна ўзмацняе арганізм. Піць па 1/4—1/2 шклянкі 1—3 разы ў дзень, асабліва ранняй вясною, пакольki гэта так званая веснавая, вітамінная курацыя.

**Мачагоннае павідла**

Узважыць па 10 г пупышак ясакара, кветак рамонку, кветак вятроўніка вязалістага (wiązówki), лісця бярозы і зёлак залатарніка (nawłoci). У электрычным млынку раздробніць сумесь так, каб атрымаўся далікатны парашок, які трэба змяшаць з 50 г павідла, джэму ці мёду. Павінна атрымацца аднастайная маса. Дзецям даваць па 1—2 чайныя лыжачкі 2 разы ў дзень пасля яды. Запіваць вадой ці вадой з сокам. Прымяняць як сродак ветрагонны і мачагонны. Павідла мае вельмі прыемны смак.

ЭСКУЛАП

# ВІРАВАНКА




1. горад між Менскам і Вільняй, 2. павага, 3. частка кампрэсара, 4. аддзяляе збожжа ад мякіны, 5. штат у ЗША; там атамны палігон, 6. шлях, 7. бакоўка ў вясковай хаце, 8. рэактыўны снарад, 9. памінкі, 10. выдача ў доўг, 11. гаручае рэчыва, 12. горад на ўсход ад Баранавіч.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 49 н-ра:** каліна, раніца, размах, музыка, капрыз, спарыш, шырыня, Расоны, саўгас, гарэза, тэрмін, каніна.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

# СПОЗНЕНАЕ КАХАННЕ

Пяцьдзесят гадоў пражылі разам Варка ды Віця. Добра жылі. Усе зайздросцілі сямейнай гармоніі. Выгадавалі сына і дачку, унукаў прычакалі. Калі нарадзіліся ім праўнучкі, Варка захварэла. Не было лякарства на яе хваробу, рак ныркі. Калі сямейнікі трывожна збіраліся каля бабулінага ложка, старая казала:

— Не перамайцеся, колькі ж жыць чалавеку на зямлі? Маладыя свет пакідаюць, што мне старой...

— Ой, мама, — казалі сівыя ўжо дзеці, — семдзесят пяць гадоў, што ж гэта за ўзрост, ці гэта старасць?..

Памерла Варка. Віця, дзесяць гадоў старэйшы за яе, вельмі перажываў яе адыход. Хадзіў часта на магілку, плакаў, як бяссільнае дзіця.

Перажываў, ды не так і доўга. Усяго тры месяцы. На могільніку сустрэўся з такой жа няшчаснаю Любай. Жанчына год раней пахавала мужа. Разам паўспаміналі сваіх каханых. Запрасіла Люба Віцю да сябе. Пайшоў стары паглядзець. З той пары стаў там частым госцем. Урэшце забраў свае сціплыя пажыткі і перасяліўся на Любіну кватэру.

— Здурэлі вы, тата, ці што? — злаваліся дзеці і ўнукі.

— Аніяк не здурэў я, — усміхаўся стары. — Спознeнае каханне не менш добрае і шчырае, чым маладое!

АЎРОРА




Дарагі Астроне! Цікавыя сны мне прысніліся, але, мусіць, прадвяшчаюць яны нешта нядобрае.

Першы. Мая сястра за граніцай. Яна бландзінка. А тут, бачу, яна чорная. Перафарбавала валасы. І прыгожа выглядае з гэтай чорнай прычоскай. Я кажу: „Даўно ты павінна была змяніць колер валасоў на чорны".

Другі. На вёсцы жыве наша бабуля. Яна адна. Дзедка памёр ужо даўней. І вось наша сям'я там. Мы на пляцы каля клуні. Але што мы там робім?! Прадаем труну. Труна чорная, а пры ёй стаяць туфлі чорныя, лакіраваныя. Іх многа. Яны новыя, толькі крыху захляпаныя граззю.

Астроне, ты калісь пісаў, што значэнне труны залежыць ад узросту таго, каму сніцца сон. Дык скажу, што мне 37 гадоў.

Аня

Шаноўная Аня! Ці твая сястра за граніцай працуе? Бо выглядае так, быццам яна працуе і зменіць там крыніцу свайго даходу. Аб гэтым сведчыць тое, што яна свае белыя валасы перамалявала на чорныя, а што вельмі прыгожа з гэтым колерам выглядае, дык, здаецца, гэтая перамена павялічыць яе даходы. Гэта наконт першага сну.

Што датычыцца другога сну, дык ён, бадай, не прадвяшчае нічога аж такога добрага, як ты спадзяешся. Бо сапраўды, труна ж для старых — смерць, для сямейных — прыбытак, для маладых — вяселле і доўгае жыццё. Але вы, па-першае, тую труну прадавалі (каб не давялося яе купляць!), яна была чорная, ды і тыя ж яшчэ чорныя туфлі, захляпаныя граззю, сведчаць аб нейкім сумным, з прыкрасцямі, падарожжы.

АСТРОН




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ВАТРУШКІ З ЖЫТНЯЙ МУКІ**

Прадукты на цеста:
*50 дэкаў жытняй мукі,*
*200 мл малака,*
*2 дэкі дражджэй,*
*1 лыжка масла,*
*соль.*

Прадукты на фарш:
*5—6 вялікіх бульбін,*
*1 цыбуліна,*
*тлушч для смажання,*
*1 яйка для змазвання,*
*соль і перац.*

З пададзеных прадуктаў падрыхтаваць цеста на дражджах. Калі яно падрасце, падрыхтаваць фарш. Бульбу зварыць, расцерці пюрэ. Перамяшаць з пасечанай, падсмажанай на тлушчы цыбуляй, дадаць па смаку солі і перцу.

З падросшага цеста рабіць у руках невялікія булачкі. З кожнай рабіць у руках аладкі, на сярэдзіне якіх класці лыжку фаршу. Загарнуць бакі аладкі без фаршу так, каб пасярэдзіне фарш быў адкрыты. Палажыць ватрушкі на бляшку, змазаць зверху збітым яйкам, уставіць у гарачую духоўку і спячы.

ГАСПАДЫНЯ




**Аляксандр Дабчынскі з Беластока** піша: „У мяне з'явіліся сумненні наконт аднаго слова ў крыжаванцы з 42 нумара „Нівы" за 1993 г. Слова, акрэслена як „маленькі кусочак" (1 вертыкальна) было разгадана вамі як *крошка*, а па-мойму павінна быць *крышка*. Думаю, што абодва словы абазначаюць тое ж самае.

Добра было б таксама, каб рэдакцыйныя мовазнаўцы высветлілі, як акцэнтаваць словы: *Беларусі, беларусы, беларусаў* ці *Беларусі, беларусы, беларусоў*. Добра было б гэтае ведаць рэдактарам радыёперадачы „Пад знакам Пагоні", бо ў іх вымаўленні наглядаецца разнабой у пастаноўцы націску.

**Ад рэдакцыі:** Маленькі кусочак, дробная часцінка чаго-небудзь — гэта *крошка* і менавіта тое меў на думцы складальнік крыжаванкі. Пададзенае вамі ў адказе слова *крышка* абазначае зусім што іншае. „Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (т. 2, стар. 744) падае два значэнні гэтага слова: *1/ вечка, накрыўка, 2/ смерць, канец*. Як відаць, абодва словы не з'яўляюцца сінонімамі.

Прыведзеныя вамі словы павінны акцэнтавацца паводле першага варыянта, гэта значыць: **Беларусі, беларусы, беларусаў.** Іншае вымаўленне не адпавядае арфаэпічным нормам беларускай літаратурнай мовы. Асобам, якія выступаюць публічна і хацелі б усцерагчыся ад падобных памылак, рэкамендуем „Слоўнік націску ў беларускай мове" Міколы Бірылы, які можна яшчэ купіць (15.000 зл.) або заказаць у нашай рэдакцыі (з дастаўкай па пошце кніжка каштаваць будзе 25.000 зл.).

(вл)

Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką od 1.01.1994 r. wynosi 7000 zł., a kwartalnie - 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

© PDF: Kamunikat.org 2016

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




*АНАТОЛЬ ЦЫРКУНОЎ*

**НУВАРЫШ**

Нядаўна сам быў голы, босы,
Затое спрытны па натуры —
Ён з іншых босых драў тры скуры...
І стаў багатым важным босам...

**ЯК ГІМН СПЯВАЦЬ?**

Як жа, не ведаючы мовы,
Мы станем пець дзяржаўны гімн?..
Няўжо здаволіцца гатовы
Цялячым мыканнем глухім?!

**ЦУДЫ**

Дзіўныя цуды
Скрыты ў душы —
Нават іуды
Носяць крыжы...

## СЕНТЭНЦЫІ

Толькі насіллю ў кайданах да твару.

* * *

Яўны парадак — беспрапынны балет, які аглядае толькі Пастаноўшчык.

* * *

Калясніца слоў гасіць сэнс.

* * *

Найлягчэй прадаецца чужое.

* * *

У цане той,
чыя вартасць пад сумненнем.

**БАРЫС РУСКО**




*Малюнак А. Гармазы*

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Пры стале п'юць гарэлку.

— Каб гэта ад мяне залежала, дык аддаў бы неграм цэлую Афрыку і няхай там сабе жывуць, — кажа адзін з бяседнікаў.

— А я далажыў бы ім і Амерыку, — гаворыць другі.

— А я дадаў бы ім яшчэ і Еўропу, — гаворыць трэці.

— Зараз, зараз! А для нас што астанецца? — пытае чацвёрты.

— Як — што?! Наступную паўлітроўку на стол!

* * *

У парыжскім бары сядзіць пры століку моцна п'яны мужчына і ўлівае ў сябе кілішак гарэлкі за кілішкам.

— Ці вы знаеце, — звяртаецца да яго іншы мужчына ад суседняга століка, — што кожны год ад гарэлкі памірае 7 тысяч французаў?

— Мяне гэта не датычыць; я — беларус.

* * *

Размаўляюць два паляўнічыя:

— Ці ўдалося вам нешта застрэліць?

— Яшчэ не, затое аднаго зайца насмерць напалохаў.

* * *

— Гавораць, што Сейм мае прыняць закон, каб усе зарплаты плаціць 25-га кожнага месяца.

— Чаму?

— Каб хапала да першага.

* * *

Муж развітваецца з жонкай, якая выязджае ў санаторый.

— Ці будзеш мне вернай?

— Я ж не варажбітка...

* * *

— Якая розніца паміж камедыяй і трагедыяй?

— Камедыя тады, калі маеш дзяўчыну а не маеш хаткі. Трагедыя бывае тады, калі маеш хатку, а не маеш дзяўчыны.

* * *

Адзін мужчына мыў вокны ў кватэры на 10-м паверсе. Выхіліўся замоцна і ўпаў на вуліцу. Вакол пацярпеўшага збеглася таўпа.

— Што тут здарылася? Што здарылася?! — сурова дапытваецца паліцыянт, праціскаючыся наперад.

— Не ведаю, — адказвае нешчаслівец, — я толькі перад хвілінаю сюды ўпаў.

Сабраў **АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

### ГІСТАРЫЧНЫЯ ЗДАНІ

### Прывід Камунізму

У адрозненне ад большасці іншых гістарычных зданяў, Прывід Камунізму не мае цялеснага аблічча. Дазнацца пра яго наяўнасць можна толькі па агульналюдскіх настроях — у краінах, якія ахунае гэтая здань, звычайна пануе падазронасць, агрэсіўнасць і зняважа чалавечай асобы.

Гэтая здань можа быць названая беларускай з пэўнымі агаворкамі, бо яна мае інтэрнацыянальны характар. Пра яе напісана шмат навуковых даследаванняў, ці не больш, чым пра ўсе іншыя пачвары ўзятыя разам, але інтэрпрэтуецца яна неадназначна — ці то з непрыхільнаю ўзнёсласцю, ці то з такой жа непрыхільнаю агідаю. Адкінуўшы ўсе сімпатыі і антыпатыі, можна з упэўненасцю сцвердзіць наступнае:

Прывід Камунізму з'явіўся гадоў сто пяцьдзесят таму ў Нямеччыне, дзе яго шляхам лабараторных вопытаў вывеў адзін мясцовы барадаты яўрэй. Навуковец меў высакародную мэту — ён спадзяваўся, што гэтая лабараторная істота аблегчыць людзям жыццё. Сталася, аднак, наадварот: прывід, які ад маленства вызначыўся надзвычайнай крыважэрнасцю, выбраўшыся на волю, пайшоў блукаць па Еўропе, шукаючы сабе ахвяраў і сталага прытулку. Але ўсе разумныя людзі, бачучы, што апроч гвалту і разбурэння, ён нічога не нясе, гналі гэтую поскудзь са сваіх краін. І тады Прывід Камунізму скіраваў свой шлях на Усход...

Прыбыўшы ў Расею, прывід адразу ж зразумеў, што патрапіў у спрыяльны асяродак: толькі тамтэйшага лянівага і неразумнага чалавека можна было пераканаць, што ў кароткі гістарычны адрэзак часу магчыма пабудаваць зямны рай, т. зв. „камунізм", дзе будзе ўсяго многа і задарма. Да таго ж, здань увайшла ў давер да аднаго сімбірскага адваката, у якога тагачасны цар забіў роднага брата — гэты адвакат і выгадаваў скарыстаць пачвару, каб адпомсціць цару... Шляхам руплівай трэніроўкі ён заахвоціў здань смактаць „крывавую капейку" з буржуяў ды іншых эксплуататараў. План зданегадоўцы атрымаўся, як і мае быць: цар-крыўдзіцель разам з сям'ёю быў расстраляны, а прывід у кароткі час цалкам апанаваў усходнія абшары. Ягоныя прыхільнікі нават пачалі экспартаваць здань па-за межы арэала яе пражывання, у тым ліку і ў Беларусь.

Праз семдзесят гадоў усе народы, сярод якіх жыла гэтая пачвара, нарэшце зразумелі яе шкоднасць і выкінулі яе са сваіх краін. Здань уцякла ў Беларусь, бо тамтэйшыя людзі, як высветлілася, аказаліся дурнейшымі нават за расейцаў — забыўшыся на старыя крыўды, яны далі Прывіду Камунізму палітычны прытулак.

Як сцвярджаюць многія аўтарытэтныя знаўцы (сярод якіх — некаторыя народныя дэпутаты, журналісты і следчыя пракуратуры), Прывід Камунізму пасяліўся ў сутарэннях Дома Урада, адкуль па радыётэлефоне шторах кіруе сесіямі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, загадваючы сваім шматлікім прыхільнікам рабіць розныя паскудствы народу, які дапусціў іх да ўлады...

Зданяграфы, што даследуюць гэты феномен, аднагалосна сцвярджаюць, што такая сітуацыя будзе доўжыцца да тых часоў, пакуль прывід не будзе знойдзены, забіты і ўрачыста пахаваны...

*(працяг будзе)*

Падрыхтаваў **ФРАНЦІШАК ХЛУС**




Сэрцайка!

Прабач, даражэнькае, што непакою цябе мо зусім неістотнымі справамі, але часамі, вер мне, гэтыя справы больш раздражняюць чалавека, чым якіясь вялікія справы. З вялікімі нераз хутчэй дасі сабе рады, а тут — ні сказаць камусь, ні даверыцца, бо абсмяюць.

Я да свят рыхтавалася салідна, бо інакш і не выпадала. Ва ўсіх тых, каго мы запрасілі да сябе ў госці, мы ўжо бывалі не раз. І сястра дапамагала, і мама. Проста не магла я прыняць людзей абы-чым. Можна сказаць, што, як на сённяшнія варункі, былі горы яды. А я бясконца хвалявалася, каб усяго хапіла.

І зусім непатрэбна. І яды, і піцця нікому не бракавала. А гасцей назбіралася больш за трыццаць чалавек. Было весела, мы танцавалі. Тэлевізар быў выключаны, каб ніхто не сядзеў, утаропіўшыся ў экран, а бавіўся і жартаваў разам з усімі.

Паколькі былі святы, людзі прыходзілі сем'ямі, кожны быў у пары. Я, нягледзячы на стомленасць, танцавала разам з усімі, стараючыся „абскочыць" кожнага госця. У пэўным моманце, калі мы танцавалі з адным мужавым сябрам, ён неспадзявана выцягнуў мяне ў калідорчык. Я падумала, што ён хоча мне нешта сказаць, і затрымалася. Ён прыціснуў мяне да сцяны. Пасля абярнуўся на 180 градусаў і сам абапёрся аб шафу, адным рыўком кінуўшы мяне на сябе. Я думала, што ён жартуе. Але ён дзвюма рукамі схапіўся за мае заднія палавінкі і з усёй сілай утуліўся ў мяне. Калі я пачала вырывацца, ён, замест зразумець тое-сёе, пачаў праз сукенку вадзіць сваёй бруднай лапай па маім „разрэзіку" зверху ўніз і наадварот. Мне стала млосна. Ні крычаць, ні мужу сказаць. Гэта ж такі сорам! Мне 34 гады, і жыццё мае не перапоўнена штучнай сарамлівасцю, але... гэта ж сябра мужа, госць у маім доме, пры людзях, а найгоршае — зусім нягледзячы на тое, ці яго пяшчоты мне падабаюцца, палез да мяне, як да нейкай „дзяўчынкі"!

Ледзь я вырвалася ад яго. На душы стала раптам так паскудна, што здалося мне, быццам нехта мяне апляваў. „Божа, з чым да людзей, — думалася мне. — Брыда такая. Як ён можа лезці са сваімі лапамі да жонкі сябра... Ды і няўжо я выглядаю такая „лёгкая"?.. А мо ён штосьць да мяне адчувае? Часта ж бывае так, што мужчыны кахаюць жонак сваіх найлепшых сяброў...

З такімі думкамі я абслугоўвала гасцей. Падавала, змяняла талеркі. Танцаваць ужо не хацелася. Можа гадзіна мінула, як я зайшла па нешта ў дзіцячы пакой, бо так дык курсавала між вялікім пакоем і кухняй. Яшчэ не запальваючы святла, адчула, што нехта тут ёсць. Нават у галаву мне не прыйшло, што можа тут адбывацца нейкая оргія. Рука механічна ўключыла святло — і перад маімі вачыма прадстала парачка ў пазіцыі, скажам, 154. Яна, мая сяброўка, сядзела, раскарачыўшыся, на маёй маразілцы, а ён, мой нязбыўшыся „кавалер", рабіў тое, чаго не ўдалося яму зрабіць на гадзіну раней.

Мілае Сэрцайка, мо ты ў даны момант падумаеш, што мяне апанавала звычайная бабская зайздрасць. Не, няпраўда. Не так было. Хай бы сабе кахаліся, але і то, калі б было тут нейкае пачуццё. Але ж толькі што лез да мяне, а тут ужо раптам знайшоў іншую. Ты, пэўна, думаеш, што я нарабіла крыку на цэлую хату, каб усе пабачылі іх непрыстойны ўчынак?!

О не, даражэнькае Сэрцайка! Найбольш мне забалела тое, што яны ў адзін міг маглі знішчыць маю новенькую, толькі што, пад Каляды купленую маразілку! Іншыя эмоцыі тут не адыгралі ўжо ніякай ролі. „Вон з маёй маразілкі!" — грымнула я ва ўсё горла, а яны паспешліва пачалі нацягваць свае штонікі. Не досыць, што адчувала я маральную крыўду ад гэтага чалавека, дык мела яшчэ страціць грошы, уваленыя ў маразілку!

Выйшлі з дзіцячага пакою без ніводнага слова. Я не сказала нікому нічога, але цяпер моцна падумаю, пакуль запрашу кагосьці да сябе на свята.

Крыся

Ой, Крыся, Крыся! Пэўна што ў гэтым выпадку найважнейшая маразілка! Ці хаця яны яе не сапсавалі, а калі так, дык ці яна ўжо адрамантавана? Бо каб не ўдалося яе направіць, дык папамятала б ты гэта свята. А кавалеры — гэта рэч набытая. Не тое, што дарагая маразілка. Добры кавалер яшчэ прыплаціць, тым больш, што ён табе і непатрэбны, бо ёсць у цябе муж.

**СЭРЦАЙКА**

P. S. Сябрук усё ж — свіння.

С.

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016